Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ
САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА
САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР


15 САКАВІКА 1930 г.

№ 2 (76)

VI-ты ГОД ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК—1930

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ
САБОЙ І МАСАМІ — АСНОВА
САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

15 ЛЮТАГА 1930 г.

№ 2 (76)

VI-ты год выданьня

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК — 1930 г.

# ЗЬМЕСТ.



---

## 1. Пастанова Эканамічнай Нарады пры СНК БССР

### пра скасаваньне п. 9 Правіл вядзеньня гаспадаркі ў лясох мясцовага значэньня, перайшоўшых у веданьне савецкіх гаспадарак.

У сувязі з устанаўленьнем ЦВК і СНК БССР прынцыпу бясплатнага карыстаньня лясамі мясцовага значэньня, якія передаюцца ў карыстаньне савецкіх гаспадарак (Палажэньне пра лясы мясцовага значэньня — З. З. БССР 1929 г., № 19, паст. 111) Эканамічная Нарада пры СНК БССР пастанаўляе:

§ 9 Правілаў вядзеньня гаспадаркі ў лясох мясцовага значэньня, перайшоўшых у веданьне савецкіх гаспадарак (Бюл. СНК БССР за 1926 г., № 16) пра парадак аплаты за лес — скасаваць.

Нам. Старшыні Савету Народных Камісараў і Эканамічнай Нарады БССР *К. Бэнэк.*

Нам. Кіраўніка Спраў Савету Народных Камісараў і Эканамічнай Нарады БССР *Л. Дубавіцкі.*

21 студзеня 1930 г.
г. Менск.

---

Узгоднена з НКЮ НКУС БССР.

## 2. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра парадак правядзеньня гужавой павіннасьці для кулацкіх гаспадарак па вывазцы дроў і лесаматарыялаў у 1929/30 г.

Для выкананьня п. п. 3 і 4 пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 12 студзеня 1930 г. „Аб забясьпечаньні выкананьня пляну вывазкі дровалесаматарыялаў у сэзоне 1929/30г.“ — Народны Камісарыят Працы БССР устанаўляе наступны парадак прыцягненьня кулацкіх гаспадарак да гужавой павіннасьці для вывазкі дроў і лесаматарыялаў у сэзоне 1930 г.

1. Прыцягненьню да гужавой павіннасьці для вывазкі дроў і лесаматарыялаў падлягаюць усе коні з гужавым транспартам кулацкіх гаспадарак, якія абкладзены сельскагаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку, а таксама рабочая сіла — возчыкі гэтых гаспадарак, для работы на конях па пагрузцы і вывазцы дроў і лесаматарыялаў, зьвязаных з вывазкай.

2. Ад прыцягненьня да гужавой павіннасьці па вывазцы дроў і лесаматарыялаў аслабаняюцца: а) коні маладзей 3-х год, якія яшчэ ня былі ў запражцы; б) хворыя коні па пасьведчаньнях вэтурачоў і в) племяныя жарабкі, якія па заключэньні вэтурача ня могуць скарыстоўваюцца для перавозкі грузаў.

3. Прыцягненьне кулацкіх гаспадарак да гужавой павіннасьці праводзіцца па сьпісках, якія складаюцца сельскімі саветамі. Накіраваньне ў распараджэньне лесазагатоўчых арганізацый для скарыстаньня

па вывазцы дровалесаматарыялаў робіцца сельскімі саветамі, паводле заявак, прадстаўляемых гэтымі арганізацыямі.

Увага. Скарыстаньне гужавой сілы кулацкіх гаспадарак у парадку гужпавіннасьці можа праводзіцца як у межах раёнаў, дзе яны стала пражываюць, таксама і ў іншых раёнах акругі. Пераброскі з аднаго раёну ў другія робяцца з дазволу акрвыканкому.

4. Нагляд за сваечасовым і поўным выкананьнем кулацкімі гаспадаркамі ўскладзеных на іх заданьняў і норм па вывазцы дроў і лесаматарыялаў, а таксама выяўленьне асоб, якія ўхіляюцца ад гужавой павіннасьці, ускладаецца на сельскія саветы.

5. Аплата за работы па вывазцы дроў і лесаматарыялаў у парадку гужпавіннасьці для кулацкіх гаспадарак утвараецца непасрэдна тымі арганізацыямі, для якіх гэтыя работы праводзіліся. Разьмер аплаты за зробленую работу ўстанаўляецца АВК ні ў якім разе ня вышэй палавіннага разьмеру нармальных расцэнак (без спэцыяльных набавак) з дыфэрэнцыяцыяй для паасобных раёнаў у бок паніжэньня ставак па вывазцы паасобных асартымэнтаў дровалесаматарыялаў.

Увага. Возчыкі на конях кулацкіх гаспадарак, якія зьяўляюцца наёмнымі рабочымі, аплачваюцца наймальнікам (кулаком) па стаўках ня ніжэй устанаўляемых АВК і РВК для часовых рабочых у кулацкіх гаспадарках і на гэтых рабочых поўнасьцю распаўсюджваецца Кодэкс аб Працы.

6. Нормы вывазкі дроў і лесаматарыялаў на аднаго каня кулацкай гаспадаркі да 10 красавіка 1930 г. устанаўляюцца ў адпаведнасьці з асартымэнтам дровалесаматарыялаў, а таксама адлегласьцю возкі ў наступным парадку:

| Адлегласьць у кілёмэтрах | НАЗВА АСАРТЫМЭНТАЎ | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Бярвеньні хв., альх., асін, ліп., блёкі і тэл. хв. слупы | Бярвеньні дуб., бяроз., граб., клян., ленінгр. кражы, тэл. дуб. слупы | Шпалы хв., сасн., швэлі. | Шпалы дуб., швэлі дуб. і сасн. сьліперы | Дробязь, і балянс даўгасьцём. | Балянсы, стойкі, дров. сухія цьверд. парод, дровы сыр. сярэдн. парод. | Дровы сухія сярэдн. парод. | Дровы сухія цьвёрд. парод. |
| | куб./м. | | шт. | | куб./м. | ск. м. | | |
| 1—2 | 375 | 300 | 3750 | 3000 | 338 | 600 | 750 | 525 |
| 3—4 | 225 | 169 | 2250 | 1875 | 225 | 375 | 525 | 375 |
| 5—6 | 169 | 131 | 1875 | 1500 | 150 | 263 | 338 | 225 |
| 7—8 | 150 | 94 | 1500 | 1125 | 113 | 225 | 225 | 188 |
| 9—10 | 112 | 75 | 1125 | 750 | 75 | 120 | 150 | 150 |
| 11—12 | 90 | 60 | 900 | 675 | 68 | 105 | 131 | 113 |
| 13—14 | 75 | 52 | 750 | 600 | 60 | 90 | 113 | 75 |
| 15—16 | 68 | 49 | 675 | 525 | 53 | 75 | 94 | 68 |
| 17—18 | 60 | 45 | 600 | 450 | 49 | 60 | 75 | 60 |
| 19—20 | 53 | 41 | 525 | 375 | 45 | 56 | 68 | 53 |
| 21—24 | 45 | 38 | 450 | 300 | 41 | 53 | 60 | 45 |
| 25—28 | 38 | 34 | 375 | 300 | 38 | 49 | 53 | 38 |

Увага. На фанэрныя, дубовыя і безгатунковыя кра жы, норма павялічваецца: пры кубатуры кража—1—1,50 куб. м. на 15%; пры кабатуры 1,50—2 куб. м.—на 20%; звыш 2 куб. м.— на 30%.

7. Выкананьне паказанай у п. 6 нормы праводзіцца па дэкадах у наступныя тэрміны:

| | |
|---|---|
| з 20 студзеня па 1-е лютага—15% | з 1 сакавіка па 10 сакавіка —15% |
| „ 1 лютага па 10 лютага—15% | „ 10 сакавіка па 20 сакавіка —10% |
| „ 10 лютага па 20 лютага—15% | „ 20 сакавіка па 1 красавіка—10% |
| „ 20 лютага па 1 сакавіка—15% | „ 1 красавіка па 10 красавіка—15% |

Норма, устаноўленая на кожную дэкаду, падлягае абавязковаму выкананьню.

Увага. Сельскім саветам па ўзгадненьні з мясцовымі органамі НК Працы і лесазагатоўчымі арганізацыямі прадастаўляецца права, выходзячы з мясцовых умоў, унесьці зьмены яе ў бок павялічэньня дэкаднага заданьня, таксама яго зьмяншэньня.

8. Гаспадарчым арганізацыям забараняецца: а) заключэньне якіх-бы та ня было ўмоў з асобамі, прыцягнутымі да гужавой павіннасьці; б) выдача гэтым асобам авансаў; в) рабіць натуральную аплату (прадуктамі, таварамі і хлебафуражом) за работу, выкананную ў парадку гужпавіннасьці.

9. Кантроль за выкананьнем кулацкімі гаспадаркімі ускладзеных на іх заданьняў па вывазцы дроў і лесаматарыялаў ў парадку гужавой павіннасьці ўтвараецца сельскімі саветамі праз праверку спэцыяльных талёнаў альбо квітанцый, якія выдаюцца гэтым гаспадаркам лесазагатоўчымі арганізацыямі.

10. Кулацкія гаспадаркі за ўхіленьне ад выкананьня ўскладзеных на іх заданьняў па вывазцы дроў і лесаматарыялаў у парадку гужавой павіннасьці прыцягваюцца да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку праз накладаньне штрафу сельскімі саветамі да 300 руб.; у выпадках арганізаванага па ўзаемнай згодзе адмаўленьня альбо ўхіленьня кулацкіх гаспадарак ад выкананьня гужавой павіннасьці—сельскія саветы перадаюць справы аб вінаватых у суд для прыцягненьня іх да адказнасьці паводле арт. 95 Крымінальнага Кодэкту БССР. (У рэдакцыі пастановы НКПрацы БССР за 8/II-1930 г. № 8).

11. На мясцовыя органы працы і органы міліцыі ўскладаецца абавязак аказваць усямернае садзейнічаньне сельскім саветам у рабоце па прыцягненьню кулацкіх гаспадарак да гужавой павіннасьці па вывазцы дроў і лесаматарыялаў, а таксама нагляд за правільным скарыстаньнем гужавой сілы гэтых гаспадарак гаспадарчымі арганізацыямі.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Ст. Інспэктар па рэгул. рынку працы НКП БССР *С. Мышалаў.*

19 студзеня 1930 г.
№ 1.

---

## 3. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра ўвядзеньне ў сілу на тэрыторыі БССР пастановы НКП СССР за 23/XII 1929 г. № 390. „Пра парадак найму і аплаты працы артыстаў-гастралёраў.“

На падставе арт. II пастановы НКП СССР за 23/XII 1929 г. № 390 „Пра парадак найму і аплаты працы артыстаў-гастралёраў“ („Т р у д“ за 18/I 1930 г.) Народны Камісарыят Працы БССР па

згодзе з Народным Камісарыятам Асьветы пастанаўляе ўвесьці паказаную вышэй пастанову НКП СССР у сілу на тэрыторыі БССР.

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

Ст. Тарыфны Інспэктар НКП БССР *Л. Эпштэйн.*

21 студзеня 1930 г.
№ 2.

---

## 4. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра арганізацыю падліку спэцыялістаў народнае гаспадаркі.

Для разьвіцьця арт. 2 пастановы ЦВК і СНК СССР за 31/XII-1929 г. „Пра падрыхтоўку кадраў для народнае гаспадаркі СССР“ і пастановы Наркампрацы СССР за 14/I-1930 г.—Народны Камісарыят Працы БССР у мэтах арганізацыі сталага падліку спэцыялістаў у БССР, якія заняты на прадпрыемствах, чыгуначным транспарце, установах і гаспадарках, а таксама беспрацоўных — пастанаўляе:

1. Правесьці за час з 25 студзеня да 25 лютага 1930 г. пэрсанальны перападлік і перарэгістрацыю ўсіх спэцыялістаў народнай гаспадаркі, якія жывуць на тэрыторыі БССР. Правядзеньне падліку ўскласьці на акруговыя інспэкцыі працы, пры якіх для агульнага кіраваньня ўсёй работай арганізуюцца міжведамсьцьвеныя камісіі пад старшынством прадстаўніка акруговай інспэкцыі працы ў складзе прадстаўнікоў: акруговага бюро прафсаюзаў, інспэкцыі мясцовае прамысловасьці, акруговага зямельнага аддзелу і аб‘яднаньня інжынэрна-тэхнічнай сэкцыі.

> Увага 1. Спэцыялісты, якія працуюць у прадпрыемствах электра-тэхнічнай, мэталя-апрацоўчай і хэмічнай прамысловасьці, павінны быць узяты на падлік не пазьней за 29/I-1930 г.
>
> Увага 2. Спэцыялісты, якія працуюць ва ўсіх іншых галінах прамысловацьці, павінны быць узяты на падлік не пазьней за 7 лютага 1930 г.

2. На падлік павінны быць узяты ўсе спэцыялісты (мужчыны і жанчыны), якія працуюць па сваёй альбо іншай спэцыяльнасьці, беспрацоўныя, якія знаходзяцца на падліку біржы працы, а таксама і тыя, якія па тых ці іншых прычынах не зарэгістраваны на біржы працы:

а) скончыўшыя ў Саюзе СССР, быўшай Расійскай імпэрыі, альбо за межамі СССР вышэйшыя тэхнічныя, транспартныя, сельскагаспадарчыя, лясныя, межавыя, вэтэрынарныя навучальныя ўстановы, альбо аналёгічныя факультэты іншых вышэйшых навучальных устаноў;

б) скончыўшыя ў Саюзе СССР, быўшай Расійскай імпэрыі альбо за межамі прамыслова-эканамічныя (быўшыя камэрцыйныя) навучальныя ўстановы, эканамічныя факультэты (аддзяленьні) іншых вышэйшых навучальных устаноў;

в) скончыўшыя юрыдычныя факультэты, факультэты грамадзкіх навук, факультэты савецкага права і да т. п. вышэйшыя навучальныя ўстановы як у Саюзе СССР, так і быўшай Расійскай імпэрыі і за межамі, калі гэтыя асобы на працягу апошніх 3-х год перад падлікам працавалі ў якасьці эканамістаў ня менш аднаго году;

г) скончыўшыя фізыка-матэматычныя факультэты ўнівэрсытэтаў у Саюзе СССР, быўшай Расійскай імпэрыі і за межамі;

д) скончыўшыя ў Саюзе СССР, быўшай Расійскай імпэрыі альбо за межамі сярэдня-тэхнічныя, транспартныя, сельскагаспадарчыя, лясныя, межавыя, вэтэрынарныя і гэадэзычныя навучальныя ўстановы і тэхнікумы;

е) ня маючыя скончанай вышэйшай альбо сярэдняй тэхнічнай ці сельскагаспадарчай асьветы (скончыўшыя ня менш 3-х курсаў) у тым ліку, якія вучыліся альбо ня скончылі адпаведныя курсы за межамі, калі гэтыя асобы на працягу апошніх 3-х год перад падлікам мелі ня менш аднаго году стажу работы на інжынэрна-тэхнічных пасадах сярэдняга альбо вышэйшага пэрсаналу, альбо пасадах сярэдняга ці вышэйшага пэрсаналу спэцыялістаў сельскай гаспадаркі;

ж) скончыўшыя ніжэйшыя тэхнічныя і сельскагаспадарчыя навучальныя ўстановы, альбо спэцыяльныя курсы, а таксама скончыўшыя ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах менш 3-х курсаў, калі гэтыя асобы мелі на працягу апошніх 3-х год перад падлікам ня менш 1 году стажу работы на інжынэрна-тэхнічных пасадах, альбо пасадах спэцыялістаў народнае гаспадаркі, і займаюць у сучасны момант адпаведныя пасады сярэдняга альбо вышэйшага тэхнічнага ці сельскагаспадарчага пэрсаналу;

з) спэцыялісты — практыкі, якія ня маюць спэцыяльнай тэхнічнай альбо сельскагаспадарчай асьветы, але маюць на працягу апошніх 5-ці год да моманту правядзеньня падліку ня менш 2-х гадовага стажу работы на інжынэрна-тэхнічных пасадах, альбо пасадах спэцыялістых сельскай гаспадаркі і займаюць у сучасны момант адпаведныя пасады сярэдняга і вышэйшага тэхнічнага і сельскагаспадарчага пэрсаналу;

і) навуковыя работнікі па ўсіх галінах, якія знаходзяцца на падліку сэкцыі навуковых работнікаў пры саюзе працаўнікоў асьветы; навуковыя работнікі навукова-дасьледчых інстытутаў і вопытна-паказальных навуковых установ, уключаючы асьпірантаў;

к) настаўнікі тэхнічных, транспартных, сельскагаспадарчых, агранамічных, лясных, межавых, вэтэрынарных і гэадэзычных вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў, а таксама настаўнікі ўсіх іншых вышэйшых навучальных устаноў;

л) асобы, якія займаюць тэхнічныя пасады ў прамысловасьці і на транспарце (аплачваемыя па сетцы інжынэрна-тэхнічнага пэрсаналу), а таксама якія займаюць эканамічныя пасады ў прадпрыемствах і не здавальняюць паказаным у папярэдніх артыкулах патрабаваньням.

3. Скончыўшымі навучальныя ўстановы (п. п. а, б, в, г, д арт. 2) лічацца асобы, якія маюць дыплём, альбо пасьведчаньне аб сканчэньні тэарэтычнага курсу навучальнай установы, аб здачы асобных іспытаў і дыплёмных праектаў; а таксама асобы, якія маюць павьведчаньні аб сканчэньні тэарэтычнага курсу навучальнае ўстановы.

Доказам належнасьці да груп паказаных у п. „в“, арт. 3, зьяўляюцца пасьведчаньні аб сканчэньні тэарэтычнага курсу і пасьведчаньне адпаведнага органу аб працы ў якасьці эканаміста, да п. „е“ і „ж“ — пасьведчаньне альбо спраўка аб сканчэньні тэй ці іншай групы навучальнае ўстановы і даведка ад прадпрыемства аб практычным стажы работы па спэцыяльнасьці, засьведчанай мясцовай прафсаюзнай арганізацыяй, — да п. „з“ — адпаведнае пасьведчаньне ад прадпрыемства аб практычным стажы работы па спэцыяльнасьці, засьведчанае мясцовай праф-

саюзнай арганізацыяй, — да п. „і“ — пасьведчаньне альбо білет адпаведнага органу сэкцыі навуковых работнікаў, — да п. „к“ — пасьведчаньне, выданае адпаведнай навучальнай установай аб рабоце ў якасьці настаўніка.

4. Не падлягаюць падліку:

а) грамадзяне СССР, якія знаходзяцца на сапраўднай ваеннай службе у часьцях, штабах, кіраўніцтвах і ўстановах РСЧА, у рэзэрве начскладу РСЧА;

Увага. Спэцыялісты, якія знаходзяцца на ваеннай службе па вольнаму найму, падлягаюць падліку на агульных падставах.

б) грамадзяне СССР, якія прызнаны ва ўстаноўленым парадку страціўшымі працаздольнасьць на 50 і больш %;

в) грамадзяне чужаземных дзяржаў, якія пражываюць на тэрыторыі БССР.

5. Асобы, якія ўжо знаходзяцца на падліку, у адпаведнасьці з пастановаю НК Працы БССР за 31/VIII-1928 г. № 56 (Бюл. СНК 1928 г., № 11), падлягаюць перарэгістрацыі на агульных падставах, паводле гэтае пастановы.

6. Усе асобы, якія падлягаюць падліку ў адпаведнасьці з арт. 2 і пражываюць у акруговых гарадох, павінны асабіста зьявіцца ў адпаведную інспэкцыю працы па месцу свайго пражываньня.

7. Усе падлягаючыя падліку асобы, якія працуюць на прадпрыемствах і ва ўстановах, што знаходзяцца не ў акруговых гарадох, не павінны зьяуляцца асабіста ў акруговыя інспэкцыі працы. Падлічальныя карткі на іх запаўняюцца адпаведнымі прадпрыемствамі і ўстановамі на падставе паказаных у арт. 8 дакумэнтаў пад адказнасьць кіраўнікоў гэтых прадпрыемстваў і ўстаноў.

Падлічальныя карткі павінны безадкладна пасылацца адпаведнымі прадпрыемствамі і ўстановамі ў інспэкцыю працы.

8. Асобы, якія павінны брацца на падлік, падаюць пры падліку наступныя дакумэнты: а) пасьведчаньне (дыплём) аб асьвеце і рабоце; б) падлічальна-вайскавы дакумэнт; в) прафсаюзны і партыйны членскі білет.

На спэцыялістаў, якія жывуць не ў акруговых гарадох, паказаныя дакумэнты, апроч прафзаюзнага і партыйнага членскага білету, пасылаюцца адпаведнымі прадпрыемствамі і ўстновамі разам з падлічальнай карткай.

9. Асобы, якія знаходзяцца на падліку, павінны паведаміць адпаведную акруговую біржу працы аб наступных акалічнасьцях, пацьвярджаючы іх адпаведнымі дакумэнтамі: а) аб зьмене пасады альбо месца службы (падаецца спраўка адміністрацыі па месцы службы); б) пра залічэньне на падлік навуковых работнікаў (падаецца спраўка сэкцыі); в) пра паступленьне на сапраўдную ваенную службу ў РСЧА (праз падачу пасьведчаньня ваеннага ведамства і падлічальнага білету); г) пра зьмену партыйнасьці (праз паказаньне нумару партбілету і падачу заявы аб зьмене партыйнасьці); д) пра скончэньне тэхнічнай альбо сельскагаспадарчай навучальнай установы, альбо спэцыяльных курсаў (праз прадстаўленьне адпаведнага дыплёму, пасьведчаньня); е) пра зьмену падлічальна-вайсковай кваліфікацыі (праз падачу падлічальна-вайсковага білету альбо копіі яго першай старонкі); ж) пра аднаўленьне ў выбарных правох (праз падачу спраўкі ад мясцовага савету).

10. Асобы, якія знаходзяцца на падліку і зьмянілі месца пражываньня на тэрмін больш 6 месяцаў, павінны пасьля прыбыцьця на новае месца пражываньня даставіць асабіста альбо выслаць па пошце адпаведнай біржы працы па новаму месцу пражываньня свой падлічальны білет для адзнакі аб пералічэньні на падлік.

Калі падлічальны білет пасылаецца на пошце, разам павінна быць паслана спраўка з паказаньнем адрасу асобы, якая знаходзіцца на падліку і пасьведчаньне аб працы па новаму месцу пражываньня.

11. Асобы, якія знаходзяцца на падліку, павінны па патрабаваньні акруговай інспэкцыі працы па месцы знаходжаньня на падліку, падаць асабіста альбо выслаць па пошце падлічальны білет для зьмены альбо ўнясеньня зьмен.

12. Асобы, якія знаходзяцца па падліку, згубілі падлічальны білет, павінны зьмясьціць за свой кошт публікацыю аб страце білету ў мясцовым друку і квіток аб прыёме публікацыі і заявы аб страце білету падаць асабіста альбо паслаць праз пошту акруговай інспэкцыі працы па месцы знаходжаньня на падліку.

13. Асобы, якія знаходзяцца на падліку і прызнаны ва ўстаноўленым парадку страціўшымі на 50 і больш процантаў працаздольнасьць, павінны разам са спраўкай, альбо пасьведчанай копіяй з яе, падаць асабіста альбо паслаць па пошце біржы працы па месцы знаходжаньня на падліку падлічальны білет.

14. У выпадку сьмерці асобы, якая знаходзілася на падліку, родныя памершага павінны перадаць падлічальны білет у дамакіраўніцтва, а дзе такога няма — у мясцовы савет. Дамакіраўніцтва альбо мясцовы савет павінны паслаць білет акруговай інспэкцыі працы па месцы знаходжаньня на падліку памершага. Адміністрацыя ўсіх прадпрыемстваў і ўстаноў павінна патрабаваць ад паступаючых на работу спэцыялістых, што падлягаюць падліку, падачы падлічальных білетаў з адзнакай аб знаходжаньні на падліку; асобам, якія не знаходзяцца на падліку, павінен быць растлумачаны абавязак узяцца на падлік. Аб асобах, якія ўхіляюцца ад падліку, прадпрыемства, альбо ўстанова паведамляе адпаведную акруговую біржу працы. Асабістая адказнасьць па нагляду за знаходжаньнем на падліку спэцыялістых народнае гаспадаркі ў прадпрыемствах і ўстановах ускладаецца на кіраўнікоў спраў альбо сакратароў.

15. Прадпрыемствы і ўстановы павінны аслабаніць спэцыялістаў ад работы на час яўкі ў інспэкцыю працы на падлік, захаваўшы за імі іх заработную плату.

16. Прадпрыемствы і ўстановы павінны выдаваць спэцыялістам, паводле іх заяў, спраўкі аб іх знаходжаньні на рабоце, аб зьмене пасады, аб пакіданьні работы ў даным прадпрыемстве альбо ўстанове, а таксама сьведчыць копіі дакумэнтаў аб асьвеце і стажы.

17. Калі сярод дакумэнтаў асоб, якія арыштаваны, у канцылярыю папраўных дамоў паступіць падлічальны білет, адміністрацыя папраўнага дому павінна паведаміць аб арышце ўласьніка білету адпаведную інспэкцыю працы па месцы знаходжаньня арыштаванага на падліку.

18. Па паведамленьні інспэкцыі працы органы міліцыі правяраюць, ці знаходзіцца даная асоба на падліку, і прыцягваюць асоб, якія ўхіляюцца ад падліку, да адпаведнай крымінальнай адказнасьці.

19. Асобы, якія ўхіляюцца ад падліку, падлягаюць адказнасьці па водле арт. 102 Крымінальнага Кодэксу БССР.

20. З выданьнем гэтае пастановы касуецца пастанова НКП БССР за 31/VIII-1928 г. № 56 (Бюл. СНК 1928 г., № 11).

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

Ст. Інспэктар па Рэгуляваньню
Рынку Працы НКП БССР *С. Мышалаў.*

23 студзеня 1930 г.
№ 3.

---

## 5. Абежнік народных камісарыятаў Працы, Земляробства і Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР

### пра правядзеньне падрыхтоўчых мерапрыемстваў па падліку спэцыялістаў народнае гаспадаркі.

З прычыны вялізарнай важнасьці пытаньня аб забясьпечаньні сацыялістычнага будаўніцтва патрэбнымі кадрамі спэцыялістых, а таксама ў мэтах плянаваньня падрыхтоўкі новых кадраў спэцыялістых, у адпаведнасьці з арт. 2 пастановы ЦВК і СНК СССР за 31/XII-1929 г. „Пра падрыхтоўку тэхнічных кадраў для народнае гаспадаркі СССР“ арганізуецца падлік усіх катэгорый спэцыялістых як з скончанай, так і з няскончанай вышэйшай і сярэдняй спэцыяльнай асьветай, а таксама асоб, якія ня маюць адпаведнае асьветы, але працуюць у якасьці спэцыялістых практыкаў. Побач з выключнай важнасьцю паказанага падліку трэба прыняць пад увагу кароткасьць тэрміну, дадзенага для яго правядзеньня, што патрэбуе правядзеньня ўсіх работ па падліку ў асабліва тэрміновым парадку. Складанасьць падліку, таксама яго тэрміновасьць робяць патрэбным для пасьпяховага яго правядзеньня ажыцьцяўленьне мабілізацыі сіл гаспадарчых і грамадзкіх арганізацый.

Прымаючы пад увагу сказанае вышэй, Народны Камісарыят Працы, Народны Камісарыят Земляробства і Вышэйшы Савет Народнае Гаспадаркі БССР прапануюць:

1. Прадпрыемствы і ўстановы, падпарадкаваныя ВСНГ і НКЗ, павінны безадкладна паведаміць усіх працуючых у іх спэцыялістых, як маючых спэцыяльную асьвету, так і практыкаў, аб падліку, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на сваячаснасьць паведамленьня спэцыялістых, якія працуюць на раёне.

2. Для забясьпечаньня сваячаснасьці і паўнаты падліку прадпрыемствы і ўстановы, паказаныя ў арт. 1, ускладаюць на аднаго з сваіх адказных работнікаў аказаньне садзейнічаньня органам працы ў правядзеньні падліку. Аб вылучанай асобе безадкладна паведамляецца акруговая інспэкцыя працы.

3. Мясцовыя прафэсійныя аб'яднаньні спэцыялістых (сэкцыі) павінны безадакладна шырока паведаміць аб'яднаных імі спэцыялістых аб падліку, таксама вылучыць упаўнаважаных асоб як для ўдзелу ў правядзеньні падліку, так і для кансультацыі па вызначэньню кваліфікацыі спэцыялістых, якія прымаюцца на падлік.

4. Акруговыя інспэкцыі працы павінны безадкладна распачаць работу па падліку (падбор работнікаў для падліку і г. д.), вылучыўшы адказнага работніка, які адказвае за правядзеньне падліку.

5. Пры акруговых інспэкцыях працы арганізуюцца міжведамсьцьвеныя камісіі пад старшыньствам прадстаўніка акруговай біржы працы ў складзе прадстаўнікоў: акруговага бюро прафсаюзаў, інспэкцыі мясцовай прамысловасьці, акруговага зямельнага аддзелу і аб'яднаньня інжынэрна-тэхнічных сэкцый. На паказаную камісію ўскладаецца агульнае кіраваньне ўсёй работай па падліку спэцыялістых.

6. Акруговым інспэкцыям працы і саветам прафсаюзаў трэба прыняць захады да шырокай папулярызацыі падліку і тлумачэньня яго мэт праз мясцовы друк, сходы, праз выданьне адозваў і да т. п., мабілізуючы ўвагу ўсёй савецкай грамадзкасьці па выкананьні задачы па падліку спэцылістых.

7. Аб прынятых для выкананьня гэтай пастановы захадах акруговыя інспэкцыі працы тэлеграфна паведамляюць НКП СССР і НКП БССР.

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

Народны Камісар Земляробства БССР *П. Рачыцкі.*

Нам. Старшыні Вышэйшага Савету
Народ. Гаспадаркі *Васкабойнікаў.*

Узгоднена з ЦСПСБ — Член Прэзыдыуму *Розін.*

23 студзеня 1930 г.

---

## 6. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра зьмену пастановы сваёй „Пра спэцвопратку“.

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе зрабіць у пастанове сваёй за 4 ліпеня 1930 г. № 49 „Пра спэцвопратку“ (Бюл. СНК 1929 г., № 8) наступную зьмену:

П. 7 арт. 22 запісаць так:

7) Дворнік: 1. Брэзэнтавы фартух — да зношаньня
2. Цёплыя рукавіцы — да зношаньня
3. Боты скураныя 1 пара — на 1 год.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Старшы Праўны Іспэктар НКП БССР *Х. Гольдзінберг.*

5 лютага 1930 г.
№ 5.

---

## 7. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра аплату сутачных і пад'ёмных асобам, якія мабілізаваны партыйнымі арганізацыямі на сталаю працу ў калгасы.

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

Прадпрыемствы і ўстановы, у якіх працуюць асобы, мабілізаваныя партыйнымі арганізацыямі на сталую працу ў калгасы, павінны выплачваць гэтым асобам пад'ёмныя з разьліку месячнага акладу і $^1/_4$ акладу на кожнага члена сям'і, які пераяжджае з гэтай асобай, сутачныя з разьліку $^1/_{30}$ месячнага акладу за 6 дзён і кошт перавозу багажу (240 кг. на даную асобу і па 80 кг. на кожнага члена сям'і).

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

3 лютага 1930 г.
№ 6.

## 8. Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў і Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя БССР

**пра ажыцьцяўленьне інструкцыі НКФ Саюзу ССР аб тэхніцы фінансаваньня мэдыка-санітарных установ з сродкаў мясцовага бюджэту і фонду лекавай дапамогі застрахаваным.**

*Усім акруговым фінансавым аддзелам, Віцебскаму Акруговаму Выканаўчаму Камітэту, Віцебскаму Гарадзкому Савету і ўсім акруговым і гарадзкім інспэктарам аховы здароўя.*

Дасылаючы пры гэтым да выкананьня ўзгодненую з Цустрахам пры Народным Камісарыяце Працы СССР за 13/XI-1929 г. інструкцыю Народнага Камісарыяту Фінансаў СССР аб тэхніцы фінансаваньня мэдыка-санітарных установ са сродкаў мясцовага бюджэту і фонду лекавай дапамогі застрахаваным, Народны Камісарыят Фінансаў і Народны Камісарыят Аховы Здароўя БССР прапануюць пры перескладаньні мясцовых бюджэтаў на 1929/30 г. і паасобных каштарысаў установ, паводле прапаноў, зробленых адпаведнымі органамі БССР, пры разглядзе бюджэту на бягучы год, прыстасаваць паказаны ў памянёнай інструкцыі парадак фінансаваньня мэдыка-санітарных установ.

Пры ажыцьцявленьні інструкцыі ў частцы, якая ўстанаўляе парадак выкананьня каштарысаў па ахове здароўя, неабходна правесьці наступнае:

а) для ажыцьцяўленьня п. 9. інструкцыі, у банкаўскіх установах, праз якія праводзіцца касавае выкананьне мясцовых бюджэтаў, адчыніць процантныя бягучыя рахункі асобным мэдыка-санітарным установам парадкам, паказаным у артыкулах 379 і 380 Касавых Правіл за 10 верасьня 1928 г.; па мэдыка-санітарных установах, якія знаходзяцца на раённым бюджэце, такія-ж бягучыя рахункі павінны быць адчынены ва ўстановах Дзяржаўнага банку, а пры адсутнасьці апошніх—у дзяржаўных ашчадных касах, альбо сельскагаспадарчых крэдытных таварыствах;

б) акрфінаддзелы па ўзгадненьні з мясцовымі акруговымі інспэктарыятамі павінны ўстанавіць сталыя тэрміны перадачы сродкаў мясцовых бюджэтаў на бягучыя рахункі, паказаныя ў п. „а"; таксама гэтыя тэрміны павінны быць устаноўлены і інспэктарыятамі аховы здароўя для передачы сродкаў з фонду лекавай дапамогі;

в) мэдыка-санітарныя ўстановы, якія знаходзяцца на раённым бюджэце, расходы з сваіх бягучых рахункаў павінны рабіць па чэках на крэдытную ўстанову, у якой адчынены гэтыя бягучыя рахункі, прычым у чэках павінен быць адзначаны прадмет расходу і каштарыснае падразьдзяленьне;

г) акрфінаддзелы па ўзгадненьні з інспэктарыятам аховы здароўя ўстанаўляюць загадзя сьпіс тых установ, якія будуць карыстацца правамі распарадчыка крэдытаў.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР *Л. Бунін.*

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР *М. Барсукоў.*

Начальнік Бюджэтнагага Кіраўніцтва НКФ БССР *Кардашэнка.*

1 лютага 1930 г.
№ 2116

**Дадатак.**

Копія.

Узгоднена з Цустрахам
пры Н. К. Працы СССР
13 лістапада 1929 г.

# Інструкцыя

## аб тэхніцы фінансаваньня мэдыка-санітарных установ з сродкаў мясцовых бюджэтаў і фонду лячэбнай дапамогі застрахаваным.

### А. Парадак складаньня каштарысу.

1. Кожная мэдыка-санітарная ўстанова, якой прадастаўлена права распарадчыка крэдытаў, складае ў межах кантрольнай лічбы, данай яму адпаведным органам аховы здароўя, адзін гадовы выдатковы каштарыс па ўстаноўленых каштарысных падразьдзяленьнях без разьбіўкі яго па крыніцах фінансаваньня (за кошт мясцовага бюджэту і фонду мэддапамогі застрахаваным) і прадстаўляе гэты каштарыс у аддзел аховы здароўя. Па ўстановах, якія ня маюць праў распарадчыка крэдытаў, складаюцца асобныя каштарысы на тых-жа падставах непасрэдна самімі ўстановамі альбо адпаведнымі аддзеламі аховы здароўя, у залежнасьці ад устаноўленага па данай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінцы парадку складаньня індывідуальных каштарысаў. Паказаным парадкам складаюцца і каштарысы органаў аховы здароўя на ажыцьцяўляемыя імі непасрэдна мерапрыемствы.

Увага 1. Да каштарысаў далучаюцца весткі аб нормах і каштоўнасьці мэдыцынскай дапамогі, на падставе якіх былі зроблены вылічэньні каштарысных прызначэньняў, а таксама меркаваньні аб колькасьці і каштоўнасьці мэддапамогі застрахаваным і незастрахаваным асобна на будучы бюджэтны год, а таксама адпаведныя справаздачы, даныя за мінулы год.

Увага 2. У асобных, найбольш буйных прамысловых раёнах, дзе выдзяляюцца ўстановы для выключнага абслугоўваньня застрахаваных, гэтыя ўстановы могуць утрымоўвацца цалкам за сродкі фондаў мэдычнай дапамогі застрахаваным, пры ўмове дастатковай магутнасьці апошніх для належачага забясьпечаньня мэддапамогаю застрахаваных.

2. Аддзелы аховы здароўя на падставе каштарысаў асобных установ і кантрольных лічбаў па мясцоваму бюджэту і фонду мэддапамогі застрахаваным складаюць сводны па данай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінцы каштарыс аховы здароўя, правяраючы ў той-жа час разьмеры неабходных асыгнаваньняў па асобных артыкулах каштарысу кожнай установы (без разьбіўкі паартыкульных прызначэньняў па крыніцах фінансаваньня), і вызначаюць арыентыровачна часткі ўдзелу мясцовага бюджэту і фонду мэддапамогі застрахаваным для пакрыцьця сумы прызначэньняў па каштарысу кожнай мэдыка-санітарнай установы, а таксама па ўсяму каштарысу аховы здароўя данай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі цалкам. Прызначэньне па асобных артыкулах каштарысу разьмеркаваньню па крыніцах фінансаваньня не падлягае.

Увага 1. Аддзелы аховы здароўя далучаюць да своднага каштарысу памянёныя ва ўвазе 1-ай да п. 1-га справаздачныя даныя і весткі агулам па ўсёй адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінцы.

Увага 2. Паартыкульнае разьмеркаваньне асыгнаваньняў на ахову здароўя, якое ўключаецца ў мясц. бюджэт па асобных параграфах разьдзелу V (ахова здароўя), утвараецца фінорганам прапарцыянальна долі ўдзелу мясцовага бюджэту ў пакрыцьці агульнай сумы выдаткаў па таму або іншаму параграфу.

3. Складзены аддзелам аховы здороўя ў межах кантрольных лічбаў па мясцоваму бюджэту і фонду мэддапамогі сводны каштарыс з дадаткам да яго каштарысаў асобных установ і вестак аб колькасьці і каштоўнасьці мэддапамогі застрахаваным і незастрахаваным прадстаўляецца ў адпаведны фінорган, які ўносіць гэтыя каштарысы на разгляд бюджэтнай нарады з сваім заключэньнем і праектам водпуску сродкаў з мясцовага бюджэту як па ўсяму каштарысу аховы здароўя, так і па каштарысах асобных мэдыка-санітарных установ.

4. Бюджэтная камісія пры мясцовым органе аховы здароўя разглядае каштарыс аховы здароўя цалкам, а таксама каштарысы асобных мэдыка-санітарных установ (пасьля разгляду іх бюджэтнай нарадай пры фінoргане) і ўлічваючы заключэньне гэтай нарады, вызначае разьмеры асыгнаваньняў з фонду мэддапамогі як па ўсяму каштарысу аховы здароўя цалкам, так і па каштарысах асобных мэдыка-санітарных установ.

5. Канчатковае зацьверджаньне адзіных выдатковых каштарысаў як па асобных мэдыка-санітарных установах, так і па аддзелу аховы здароўя цалкам, і устанаўленьне разьмераў удзелу ў іх пакрыцьці мясцовага бюджэту і фонду мэдычнай дапамогі застрахаваным, утвараецца адпаведнымі мясцовамі саветамі адначасова з разглядам і зацьверджаньнем адпаведных мясцовых бюджэтаў.

Увага. Сумы, якія выдзяляюцца з фонду мэддапамогі на пакрыцьцё часткі выдаткаў па мэдыка-санітарных установах, якія знаходзяцца на раённым бюджэце, вызначаюцца аддзелам аховы здороўя пасьля атрыманьня ад райвыканкомаў кантрольных лічбаў па райбюджэту для выдаткаваньня па гэтых установах.

Аб разьмерах сум, якія выдзелены з фонду мэддапамогі, аддзелы аховы здароўя паведамляюць райвыканкомы. У адпаведнасьці з гэтым райвыканкомамі вызначаюцца агульныя кантрольныя лічбы для адзіных каштарысаў мэдыка-санітарных установ. Каштарысы гэтыя зацьвярджаюцца ў парадку, які ўстаноўлены для каштарысаў па раённаму бюджэту.

6. У мясцовых бюджэтах адбіваюцца толькі выдаткі па ахове здароўя, якія падлягаюць пакрыцьцю за кошт мясцовага бюджэту. За агульным падрахункам мясцовых бюджэтаў паказываюцца агульныя сумы выдаткаў, якія аднесены за кошт фонду мэддапамогі.

7. Да адпаведнага мясцовага бюджэту абавязкова далучаецца сводны каштарыс аховы здароўя і плян скарыстаньня сум па фонду мэддапамогі застрахаваным у разьмерах, які зацьверджаны райвыканкомам. Да сводаў мясцовых бюджэтаў далучаюцца своды гэтых каштарысаў.

### Б. Парадак выкананьня каштарысаў па ахове здароўя.

8. Адначасова з агульным касавым плянам выкананьня мясцовага бюджэту фінорган і аддзел аховы здароўя па ўзаемнай згодзе складаюць квартальныя касавыя пляны (з штомесячнай разьбіўкай) па вы-

кананьні адзіных каштарысаў па ахове здароўя, вызначаючы разьмеры пакрыцьця агульнай сумы квартальнага (месячнага) прызначэньня па кожнай мэдыка-санітарнай установе з сродкаў мясцовага бюджэту і фонду мэддапамогі застрахаваным прапарцыянальна долям удзелу гэтых крыніц у гадовым каштарысе гэтай установы.

9. У распараджэньне асобных мэдыка-санітарных устаноў, якія карыстаюцца правамі распарадчыка крэдыту, а ў іншых выпадках—аддзелаў аховы здароўя, адчыняюцца фінорганам асобныя бягучыя рахункі, на якіх зьліваюцца сродкі з усіх крыніц фінансаваньня. На гэтыя бягучыя рахункі пераводзяцца фінорганам за кошт мясцовага бюджэту і пры мяшаным фінансаваньні—аддзелам аховы здароўя за кошт фонду мэддапамогі застрахаваным сумы, якія ўстанаўляюцца ім у парадку арт. 8, у тэрміны, якія забясьпечваюць бесьперабойнае фінансаваньне мэдыка-санітарных устаноў у межах узгодненых касавых плянаў.

Увага. Сумы, якія выдзелены па фонду мэддапамогі на пакрыцьцё часткі выдаткаў па мэдыка-санітарных установах, што знаходзяцца на раённым бюджэце, пераводзяцца па пляну, складзенаму аддзелам аховы здароўя і які паведамляецца адпаведнаму райвыканкому, ў распараджэньне (на бягучы рахунак) адпаведнай мэдыка-санітарнай установы.

10. Мэдыка-санітарныя ўстановы, а ў патрэбных выпадках—аддзелы аховы здароўя, у працэсе выкананьня каштарысаў выпісваюць у межах прызначэньняў па асобных каштарысных падразьдзяленьнях асыгноўкі-чэкі на ўстанову банку, у якой адчынены паказаныя ў п. 9. бягучыя рахункі, без спасылкі на крыніцы фінансаваньня, але з абавязковым паказаньнем прадмету выдатку (каштарыснага падразьдзяленьня).

11. Мэдыка-санітарныя ўстановы вядуць агульны падлік выдаткаў, якія вызначаны па зацьверджанаму каштарысу, без падразьдзяленьня іх на крыніцы фінансаваньня.

Увага. Мэдыка-санітарныя ўстановы, якія знаходзяцца на раённым бюджэце, робяць выдаткі па адзінаму свайму каштарысу за кошт сродкаў райбюджэту і сум мэддапамогі (без разьбіўкі), указваючы у належачых дакумэнтах каштарыснае падразьдзяленьне, па якому выпісваецца ў расход даная сума.

12. Пасьля сканчэньня кожнага месяца адпаведным фінорганам агульная сума фактычнага расходу па кожнай мэдыка-санітарнай установе разьмяркоўваецца паміж мясцовым бюджэтам і фондам мэддапамогі застрахаваным прапарцыянальна ўстаноўленым долям удзелу гэтых крыніц па зацьверджанаму каштарысу данай мэдыка-санітарнай установы.

13. Канчатковыя разьлікі паміж мясцовым бюджэтам і фондам мэддапамогі застрахаваным робяцца па сканчэньні году на працягу ільготнага месячнага тэрміну, устаноўленага для заключэньня разьлікаў. Пры гэтым пры адсутнасьці запазычанасьці па каштарысу данай мэдыка-санітарнай установы разьлікі паміж мясцовым бюджэтам і фондам мэддапамогі робяцца на падставе долявага ўдзелу гэтых крыніц, які вызначаны пры зацьверджаньні каштарысу па кожнай асобнай установе і даных фактычнага выкананьня гэтага каштарысу.

Калі-ж ёсьць запазычанасьць па каштарысу мэдыка-санітарнай установы, то запазычанасьць гэта пакрываецца з тае крыніцы (мясцовы бюджэт альбо фонд мэддапамогі), якой ня выкананы долевы ўдзел па каштарысу.

14. Сумы, якія падлягаюць звароту па падставе канчатковага разьліку з мясцовага бюджэту ў фонд мэддапамогі застрахаваным, перадаюцца на бягучы рахунак адпаведнага аддзелу аховы здароўя. Сумы, якія падлягаюць звароту мясцоваму бюджэту з фонду мэддапамогі, перадаюцца на бягучы рахунак бюджэтных сродкаў. Сумы-ж, якія належаць да пакрыцьця запазычанасьці, перадаюцца з адпаведных крыніц належачай мэдыка-санітарнай установе.

15. Да справаздачы аб выканьні данага мясцовага бюджэту далучаецца сводная справаздача аб выкананьні каштарысаў па ахове здароўя па данай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінцы. Свод гэтых справаздач далучаецца да сводаў справаздач па выкананьні мясцовых бюджэтаў акругі.

Арыгінал падпісалі:

Нам. Народнага Камісара
Фінансаў Саюзу ССР *Рогаў.*

Нам. Начальніка УМФ НКФ СССР *Лепскі.*

З арыгіналам згодна:

Інспэктар Бюджэтнага Кіраўніцтва
НКФ БССР *Сьпягальскі.*

---

## 9. Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

### пра скасаваньне пастаноў і абежнікаў, выдадзеных з 1920 г. да 1-га студзеня 1930 г.

Народны Камісарыят Асьветы БССР пастанаўляе скасаваць свае пастановы і абежнікі, выдадзеныя ў пэрыяд часу з 1920 г. да 1 студзеня 1930 г., як страціўшыя значэньне:

1) п. 1. пастановы Калегіі НКА за 15 ліпеня 1921 г. № 19 „Аб прыёме ў Беларускі Дзяржаўны Палітэхнікум“;

2) п. п. 1, 2, 3 пастановы Калегіі НКА за 17 лістапада 1921 г. № 37 „Пра матарыяльна-фінансавае забясьпечаньне клюбаў, бібліатэк і школ для дарослых“;

3) пастанову Калегіі НКА за 17/18 сьнежня 1921 г. № 42 „Аб грашовым зборы на карысьць школ і аб падатку з відовішчаў, канцэртаў і інш“;

4) п. 3 пастановы Калегіі НКА за 22 сьнежня 1921 г. № 43 „Пра зацьверджаньне інструкцыі раённым школьным саветам“;

5) п. 2 пастановы Калегіі НКА за 20 студзеня 1922 г. № 1 „Пра ўтварэньне пры Акадэмічным Цэнтры спэцыяльнага органу для аб'яднаньня і ўзгадненьня адміністрацыйна-гаспадарчай дзейнасьці вышэйшых навучальных устаноў“;

6) п. 12 пастановы Калегіі НКА за 9 лютага 1922 г. № 6 „Аб прынцыпах адчыненьня школ, якія ўтрымліваецца на сродкі бацькоўскіх калектываў“;

7) п. 1. пастановы Калегіі НКА за 9 сакавіка 1922 г. № 10 „Аб увядзеньні платы за навучаньне ў школах, якія знаходзяцца ў гарадох Беларусі“.

8) п. 1 пастановы Калегіі НКА за 18 мая 1922 г. № 19 „Аб узіманьні платы за выдачу пасьведчаньняў аб скончэньні 7-гадовай працоўнай школы“ і п. 3 пастановы „Пра палажэньне аб павятовых інспэктарох народнае асьветы па сацыяльным выхаваньні“.

9) п. 1 пастановы Калегіі НКА за 15 чэрвеня 1922 г. № 21 „Пра інструкцыю для павятовых і гарадзкіх інспэктароў сацыяльнага выхаваньня“;

10) п. 6 пастановы Калегіі НКА за 22 чэрвеня 1922 г. № 22 „Пра зацьверджаньне палажэньня аб спэцыяльных экзаменах для жадаючых атрымаць права настаўніцтва“;

11) п. 2 пастановы Калегіі НКА за 10/11 жніўня 1922 г. „Аб умовах прыёму ў пэдагагічныя тэхнікумы“, п. 4—„Аб пераважным укамплектаваньні лепшых школ дзяцьмі рабочых“, п. 5—„Аб абавязковай дапамозе бацькамі вучняў школе і аб яе памеры“;

12) п. 7 пастановы Калегіі НКА за 24 жніўня 1922 г. № 31 „Аб зацьверджаньні палажэньня пра Беларускую Камісію па палепшаньню быту вучоных“;

13) п. 3 пастановы Калегіі НКА за 2 лістапада 1922 г. № 43 „Аб самакіраўніцтве слухачоў пэдтэхнікумаў“;

14) п. 8 пастановы Калегіі НКА за 9 лістапада 1922 г. „Аб звальненьні камсамольцаў ад платы за навучаньне ў навучальных установах БССР“;

15) п. 12 пастановы Калегіі НКА за 23 лістадада 1922 г. „Пра зацьверджаньне часовага палажэньня аб пэдтэхнікумах“;

16) п. 3 пастановы Калегіі НКА за 1 лютага 1923 г. „Пра ўзіманьне платы за навучаньне дзяцей членаў прафсаюзаў і щкольных працаўнікоў чыгуначных школ на тэрыторыі БССР“;

17) п. 9 пастановы Калегіі НКА за 5 мая 1923 г. № 13 „Пра кароткатэрміновыя земляробскія курсы“;

18) п. 5 пастановы Калегіі НКА за 14 ліпеня 1923 г. № 17 „Пра правілы прыёму і залічэньня ў тэхнікумы і прафтэхшколы“;

19) п. 5 пастановы Калегіі НКА за 21 ліпеня 1923 г. „Аб пачатку навучальнага году“;

20) п. 4 пастановы Калегіі НКА за 11 кастрычніка 1923 г. № 23 „Аб устанаўленьні платы за навучаньне ў сямігодках і агульна-асьветных курсах Беларусі“., п. 6—„Аб утварэньні стыпэндыяльных камісій“;

21) п. 2 пастановы Калегіі НКА за 3 лістапада 1923 г. „Аб агранічэньні прысутнасьці дзяцей да 15-гадавога веку на публічных відовішчах, якія ня маюць выхаваўчага характару“, п. 3—„Аб забароне ўсякага роду публічных відовішчаў пасьля наступленьня першай гадзіны ночы““;

22) п. 4 пастановы Калегіі НКА за 3 сьнежня 1923 г. № 28 „Аб устанаўленьні платы і парадку аслабаненьня ад платы за навучаньне ў школах Беларусі“;

23) п. 2 пастановы Калегіі НКА за 9 лютага 1924 г. № 3 „Аб карыстаньні працаўнікамі асьветы памяшканьнямі, апалам і асьвятленьнем“;

24) п. 7 пастановы Калегіі НКА за 27 лютага 1924 г. № 5 „Пра палажэньне аб навукова-мэтадалёгічных камітэтах“;

25) п. 5 пастановы Калегіі НКА за 30 мая 1924 г. № 15 „Пра палажэньне аб стыпэндыяльных камісіях“;

26) Абежнік НКА за 15 студзеня 1925 г. № 393 „Аб тэрміновай прысылцы ведамасьцяй на працаўнікоў па паказанаму ўзору і аб штомесячным паведамленьні аб усіх зьменах у асабовым складзе“.

27) абежнік НКА за 30 верасьня 1925 г. № 66 „Аб парадку атрыманьня слухачамі навучальных установ адсрочак па прызыву да вайсковай службы“;

28) Абежнік НКА за 4 лістапада 1925 г. № 109 „Аб парадку адчыненьня дагаворных школ (Бюл. СНК 1925 г., № 8);

29) абежнік НКА за 9 лістадада 1925 г. № 94 „Аб хваробах і фізычных недахопах, якія перашкаджаюць прыёму ў пэдагагічныя тэхнікумы“;

30) п. 2 пастановы Калегіі НКА за 8 сакавіка 1926 г. № 16 „Аб зацьверджаньні праекту статуту Навукова-Мэтадалёгічнага Камітэту“;

31) п. 4 пастановы Калегіі НКА за 15 сакавіка 1926 г. № 17 „Аб зацьверджаньні палажэньня аб акруговых і раённых мэтадычных бюро“;

32) абежнік НКА за 12 чэрвеня 1926 г. № 62 „Аб парадку ўкамплектаваньня школ настаўнікамі (Бюл. СНК 1926 г., № 9).

33) абежнік НКА за 29 студзеня 1926 г. № 13 „Аб дастаўленьні вестак па справе адчыненьня дагаворных школ на ўтрыманьні самога жыхарства“;

34) абежнік НКА за 10 лютага 1926 г. № 19 „Аб узіманьні аўтарскага ганарару за публічнае выкананьне розных твораў літаратуры і мастацтва“;

35) абежнік НКА за 10 красавіка 1926 г. № 44 „Аб канчатку заняткаў у сямігадовых і чатырохгадовых школах сацвыху“;

36) абежнік НКА за 8 мая 1926 г. № 49 „Аб канцы навучальнага году ў навучальных установах, падпарадкаваных Галоўпрафасьветы“;

37) абежнік НКА за 19 мая 1926 г. № 54 „Аб парадку складаньня і прадстаўленьня гадовых справаздач па ўстановах сацвыху“;

38) абежнік НКА за 22 мая 1926 г. № 55 „Аб канцы навучальнага году ў вышэйшых навучальных установах БССР“;

39) пастанову НКА за 20 студзеня 1926 г. № 12 „Аб зімовых адпачынках у школах малапісьменнасьці і палітграматы“;

40) пастанову НКА за 28 студзеня 1926 г. № 16 „Аб зімовым адпачынку ў дзіцячых садох“;

41) пастанову Калегіі НКА за 29 лістапада 1926 г. № 2 „Пра палажэньне аб Навукова-Мэтадалёгічным Камітэце“.

42) абежнік НКА і НКП за 29 сакавіка 1926 г. № 36/21 „Аб разьмеркаваньні броні для прыстасаваньня на прадпрыемствах перарасткаў“;

43) абежнік НКА за 29 сакавіка 1926 г. „Аб разьмеркаваньні перарасткаў з дзіцячых дамоў па гандлёвых і вытворчых прадпрыемствах“;

44) абежнік НКА за 25 студзеня 1926 г. № 12 „Аб адчыненьні пры палітасьветных установах куткоў ашчадных кас і аб пашырэньні агітацыі сярод жыхарства за ашчадныя касы“;

45) абежнік НКА за 30 сакавіка 1926 г. № 38 „Аб парадку вучоту дзяржаўных прыбыткаў“;

46) абежнікі НКА за 15 мая 1926 г. № 52 „Аб летнім перапынку ва ўстановах палітасьветы“ і за 22 мая № 56 „Аб летнім перапынку ў саўпартшколах“;

47) абежнік НКА за 26 мая 1926 г. № 57 „Аб афармленьні прызначэньняў на пасаду“;

48) абежнік НКА за 27 мая 1926 г. № 58 „Аб парадку выдачы пасьведчаньняў праслухаўшым курсы па вывучэньні беларускае мовы“;

49) абежнік НКА за 11 чэрвеня 1926 г. № 59 „Пра забясьпечаньне школ нацменьшасьцяў падручнікамі“;

50) абежнік НКА за 12 чэрвеня 1926 г. № 61 „Аб мерах забясьпечаньня школ настаўнікамі да пачатку навучальнага году“;

51) абежнік НКА за 28 чэрвеня 1926 г. № 64 „Аб скарыстаньні сродкаў на школьнае будаўніцтва“;

52) абежнік НКА за 29 ліпеня 1926 г. № 66 „Аб высылцы сродкаў, прызначаных на дзяцей перарасткаў, якія накіраваны ў гандлёва-вытворчыя прадпрыемствы звыш броні“;

53) абежнік НКА за 2 чэрвеня 1927 г. № 17 „Аб узіманьні аўтарскага ганарару за публічнае дэманстраваньне кіно-карцін і парадку спагнаньня аўтарскага ганарару з тэатраў, кіно-тэатраў і інш. відовішчаў“;

54) абежнік НКА за 2 студзеня 1928 г. № 5/3 „Пра адказнасьць за непасылку дзяцей у школы ў мясцовасьцях, дзе ўведзена ўсеагульнае абавязковае навучаньне“ (Бюл. СНК 1928 г., № 1);

55) абежнік НКА за 26 кастрычніка 1926 г. № 1 „Аб узгадненьні з органамі Прафэсіянальнага Саюзу Працаўнікоў Асьветы прызначэньняў на пасаду загадчыкаў сямігодак і прафшкол і інспэктароў народнай асьветы“;

56) абежнік НКА за 18 красавіка 1927 г. № 14 „Аб узгадненьні з органамі Прафэсіянальнага Саюзу Працасьветы прызначэньняў адміністрацыйнага пэрсаналу ўстаноў, падпарадкаваных акругавым аддзелам народнае асьветы“;

57) абежнік НКА за 23 красавіка 1926 г. № 15 „Аб сваечасовай падачы ў прызыўныя камісіі сьпісаў на вучняў, якія падлягаюць прызыву“;

58) абежнік НКА за 17 жніўня 1927 г. № 21 „Аб парадку выдачы пасьведчаньняў па ільготнаму тарыфу № 45“;

59) п. 4 пастановы Калегіі НКА за 8 сьнежня 1927 г. № 5 „Аб парадку правядзеньня канікулаў“;

60) п. 1 пастановы Калегіі НКА за 26 красавіка 1928 г. № 22 „Аб зацьверджаньні палажэньня пра Навукова-Мэтадалёгічны Камітэт НКА“;

61) п. 2 пастановы Калегіі НКА за 22 лістапада 1928 г. № 40 „Аб зімовых канікулах у культурна-асьветных установах БССР“;

62) п. 1 пастановы Калегіі НКА за 13 сьнежня 1928 г. № 43 „Аб тэрмінах зімовых вакацыяў у ВНУ, рабфаках і тэхнікумах“;

63) пастанову НКА за 25 лістапада 1927 г. № 21 „Пра зімовы і вясновы перапынак у школьных установах БССР“ (Бюл. СНК 1928 г., № 1);

64) пастанову НКА за 1 сакавіка 1928 г. „Пра зацьверджаньне парадку пераводаў і выпускаў у школах сацыяльнага выхаваньня і на агульна-адукацыйных курсах“ (Бюл. СНК 1928 г., № 3);

65) пастанову НКА за 22 лістапада 1928 г. № 22 „Пра зімовыі вясновы перапынак ў школьных установах БССР“ (Бюл. СНК 1928 г., № 15);

66) пастанову НКА за 14 жніўня 1929 г. № 10 „Пра зьмены тэрмінаў зімовага і вясновага перапынку ў навучальных установах сацыяльнага выхаваньня“ (Бюл. СНК 1929 г., № 9);

67) абежнік НКА і Камунальнага аддзелу БССР „Аб забясьпечаньні школьных і інш. культурна-асьветных установаў памяшканьнямі і надзяленьні іх сядзібамі, гаспадарчымі будынкамі і зямельнымі вучасткамі“ (З. З. БССР 1923 г., № 11);

68) пастанову НКА за 30 красавіка 1928 г. № 91 „Аб зьменах у пастанове НКА за 9 мая 1927 г. № 85 „Аб тэрмінах пачатку і заканчэньня навучальнага году ў навучальных установах БССР“;

69) пастанову НКА за 26 сакавіка 1928 г. № 16 „Аб ліквідацыі няпісьменнасьці сярод навабранцаў тэрытарыяльных часьцей пры зборах у 1928 г“;

70) пастанову НКА за 30 лістапада 1928 г. № 25 „Пра курсы важатых піанэратрадаў“.

Народны Камісар Асьветы *А. Платун.*

Сакратар НКА БССР *З. Грамыка.*

3 лютага 1930 г.
№ 32.

---

## 10. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### пра работы, падлягаючыя выкананьню земляўпарадчым пэрсаналам у зімовы час.

*Усім Загадчыкам акруговых зямельных аддзелаў і Віцебскаму АВК (па земляўпарадкаваньню).*

Шпаркі рост саўгаснага і калгаснага будаўніцтва, ахопліваючы цэлыя раёны і акругі, ставіць перад зямельнымі органамі задачу кораннога зьмяненьня характару земляўпарадкаваньня і асноўных мэтадаў работы.

Земляўпарадкаваньне ў гэты пэрыяд ня можа быць сталым, так як кожны тыдзень калектывы пашыраюць сваю плошчу; дзеля таго, каб яно не адставала ад шпаркага тэмпу разьвіцьця калгасаў, формы і разьмеры якіх зьмяняюцца побач з ростам іх, земляўпарадкаваньне ў даны пэрыяд павінна праводзіцца ўвесь зімовы час і вытварацца ў выглядзе прасьцейшага адводу тэрыторыі калгасаў з тым, каб у вясеньнюю пасеўную кампанію забясьпечыць магчымасьць арганізаванаму ў калгасы насельніцтву калектыўна праводзіць палёвыя работы.

Для выкананьня гэтай асноўнай задачы зямельным органам належыць найлепшым чынам прыстасаваць маючыйся ў іх распараджэньні тэхпэрсанал, які, апроч памянёных адводаў, павінен праводзіць падрыхтоўчыя работы, якія-б забясьпечвалі плянамерную бесьперабойную арганізацыю і выкананьне земляўпарадчых мерапрыемстваў надыходзячага летняга палёвага пэрыяду.

На падставе паказанага вышэй Народны Камісарыят Земляробства БССР прапануе да кіраваньня наступнае:

1. Земляўпарадкаваньне, як мера сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, павінна ў далейшым праводзіцца выключна па арганізацыі саўгасаў, калгасаў, аграіндустрыяльных камбінатаў, раёнаў работ машынатрактарных станцый і інш. тыпаў буйнай сацыялістычнай гаспадаркі.

2. Самастойнае земляўпарадкаваньне індывідуальных гаспадарак спыніць. У сувязі з гэтым расьсяленьне з пераносам будынкаў як па

скончаных земляўпарадчых справах, так і па тых, што знаходзяцца ў стадыі выкананьня, ў далейшым забараніць.

3. Местачковае насельніцтва, падлягаючае земляўпарадкаваньню па лініі сельскай гаспадаркі, павінна быць падлічана і земляўпарадкавана пры калектывізацыі ваколічнай тэрыторыі.

4. Для пасьпяховага правядзеньня работ па калектывізацыі і падрыхтоўцы да вясеньняй пасеўнаў кампаніі неабходна зараз-жа выканаць наступнае:

а) Сіламі земляўпарадчыкаў, аграномаў, прадстаўнікоў Калгассаюзу і сельсаветаў пад кіраўніцтвам раённага выканаўчага камітэту шырока правесьці растлумачальную працу аб задачах калектывізацыі ўсяму бядняцка-серадняцкаму насельніцтву.

б) Арганізаваныя калгасы належным чынам аформіць, склаўшы пры гэтым сьпіскі ўсіх грамадзян, пражываючых на ахопленай калектывам тэрыторыі з дыфэрэнцыяцыяй гаспадарак па сацыяльных адзнаках, з выяўленьнем кулацкай часткі, непадлягаючай ўключэньню ў калектыў.

в) Ва ўсіх раёнах увесьці начальнікаў земляўпарадчых партый, камандыраваўшы адначасова з гэтым інструктароў-рэвізораў на пасады начальнікаў раённых партый. У раёнах суцэльнай калектывізацыі пасады начальнікаў партый забясьпечыць лепшымі і найбольш кваліфікаванымі спэцыялістымі.

г) Аперацыйны склад земляўпарадчыкаў тэрмінова камандыраваць у раёны.

д) Адначасова з афармленьнем калектыву сельсаветы сумесна з кіраўніцтвам арганізаванага калектыву выконваюць работу па падліку і папярэдняй ацэнцы маемасьці ўсіх гаспадарак, а таксама праводзяць працу па складаньню семяннога фонду ў колькасьці, забясьпечваючай яравы клін наступаючай сельскагаспадарчай кампаніі з разрахунку пасеву мінулага году і неабходнага пашырэньня пасеўнай плошчы.

Падлік правесьці па спэцыяльных картках.

е) Кожнаму арганізаванаму калектыву зрабіць адвод (земляўказаньне) усёй прадастаўленай яму зямлі, карыстаючыся для гэтага маючымся плянавым матарыялам. У выпадку-ж адсутнасьці яго скласьці схэматычны чарцёж на прадастаўляемыя землі з паказаньнем на ім схэматычна-ж усіх зямель па ўжытках і апісаньнем знадворных меж тэрыторыі.

Адначасова з гэтым вызначыць плошчу і месцазнаходжаньне яравога кліну.

ж) У выпадках, калі нельга будзе зрабіць адвод зямлі калектыву сіламі земляўпарадчыкаў за недахопам іх, дазволіць зрабіць адвод сельсавету пад кіраўніцтвам начальніка райземляўпарадчай партыі, прычым сельсаветы схэматычных чарцяжоў не складаюць, а адвод робіцца па асобнаму акту, які зацьвярджаецца раённым выканаўчым камітэтам.

з) Усе дзеяньні па адводу зямель калектывам афармляюцца адпаведнымі актамі, якія складаюцца земляўпарадчыкам, прадстаўніком сельсавету і зацьвярджаюцца раённым выканаўчым камітэтам.

і) Адказнасьць за арганізацыю ўсёй паказанай работы, а таксама за своечасовае сканчэньне работ па адводу зямлі калгасам ускладаецца пэрсанальна на загадчыка райземчасткі і на начальніка земля-

ўпарадчай партыі. Праца па падліку і ацэнцы маемасьці ўвайшоўшых у калгас гаспадарак праводзіцца сельсаветам.

5. Кулацкія гаспадаркі ў калгасы ня прымаюцца, а калі дзе прыняты, павінны быць безадкладна выключаны. Падрабязныя паказаньні, што рабіць з кулакамі, будуць дадзены дадаткова.

6. Работу зімовага часу неабходна праводзіць такім чынам, каб была магчымасьць поўнага скарыстаньня яе вынікаў у час летніх работ па арганізацыі тэрыторыі, а таму:

а) У тых раёнах калектывізацыі, на тэрыторыі якіх няма поўнага плянавага матарыялу і адсутнічае выстарчальны матарыял эканамічнага і натуральна-гістарычнага абсьледваньня, земляўпарадчы і аграмамічны пэрсанал зьбірае на месцы паказаныя вышэй зьвесткі, неабходныя для работы па арганізацыі тэрыторыі ў надыходзячым палёвым летнім пэрыядзе, а таксама зьбірае ўвесь плянавы матарыял, які будзе на руках у насельніцтва ў часе работ. Пры наяўнасьці-ж выстарчальнага матарыялу як плянавага, так і абсьледвацельскага, неабходна ў зімовы пэрыяд прыступіць да праэктыроўкі арганізацыі тэрыторыі з тым, каб па магчымасьці ўжо да вясеньняга пасеву перанесьці складзены праэкт у натуру.

б) Па ўсіх земляўпарадчых справах, па якіх складаньне плянаў яшчэ ня скончана, сканчэньне іх павінна праводзіцца з разьлікам магчымасьці скарыстаньня гэтых плянаў, як матарыялаў графічнага складаньня пляну раёнаў і надыходзячых земляўпарадчых работ, г. зн. плян павінен быць выкананы ў тушы, мець даныя памеру ў натуры, сумежнасьць і экспллікацыю без усялякай лішняй аддзелкі.

в) Пры складаньні раёных плянаў прытрымлівацца наступнай чарговасьці: у першую чаргу скласьці пляны раёнаў суцэльнай калектывізацыі, пералічаных у пастанове СНК за 12 сьнежня 1929 г. і ў другую чаргу—на раёны, якія ўключаны на прадмет суцэльнай калектывізацыі акруговымі выканаўчымі камітэтамі і ў апошнюю чаргу—на астатнія раёны.

г) Як матарыял для складаньня раёных плянаў, павінен быць цалкам скарыстаны ўвесь архіўны плянавы матарыял, а таксама пляны лесаўпарадкаваньня. Раённыя пляны складаюцца ў маштабе—200 мт. у сант.

7. У зімовы пэрыяд пры адводзе зямлі як арганізаваным, так і арганізуемым калектывам трэба ўжыць усе захады да пашырэньня тэрыторыі існуючых савецкіх гаспадарак за рахунак зямель запфондаў, зямель, атрыманых ад абрэзкі шматзямельных гаспадарак, а таксама за лік працоўных зямель, аслабанёных у парадку магчымай перасоўкі землякарыстаньняў пры адводзе зямлі калектывам.

8. Акруговым зямельным аддзелам зараз-жа разабраць усе пляны і земляўпарадчыя справы па раёнах і адначасова з камандыраваньнем земляўпарадчыкаў накіраваць іх у РВК.

РВК і АКРЗА прыняць адпаведныя захады да своечасовага прадастаўленьня пад архівы і чарцёжныя памяшканьняў і належнага абсталяваньня іх.

9. Для ўзмацненьня кантролю і інструктаваньня работ па калектывізацыі на мясцох абавязаць адміністрацыйна-тэхнічны земляўпарадчы пэрсанал Акрза ня менш 75% свайго службовага часу праводзіць на работах у раёнах.

10. Абавязаць Акрза кожныя 10 дзён па тэлеграфу паведамляць НКЗ аб ходзе работ па калектывізацыі. Формы і парадак складаньня вестак пры гэтым далучаюцца.

Нам. Народнага Камісара Земляробства *К. Масюкоў.*

Кіраўнік Земляўпарадчай Групы *М. Вашчыла-Вірын.*

8 студзеня 1930 г.
№ 20.

---

**Дадатак.**

Форма № 1.

Г. ______________

______________

______________

Падаецца начальнікам земляўпарадчай партыі раёну акруговаму земляўпарадчыку (інспэк. па зем-ні Віцебскага АВК) на наступны дзень па выходзе дэкады.

# СПРАВАЗДАЧА

аб руху афармленьня адводу зямель і паказаньня яровага кліну арганізаваным калгасам і саўгасам да вясеньняга севу 1930 г., паводле абежніку НКЗ БССР за 8 студзеня 1930 г. № 20.

На ______ дзень ______ месяца 1930 г.

Па ______ раёну ______ акругі

| № запытаньняў і адказаў | ЗАПЫТАНЬНІ | Адказы: Колькасьць | Адказы: Лік двароў у іх (сем'яў) | Адказы: Плошча |
|---|---|---|---|---|
| 1 | На справаздачны дзень лічыцца арганізаваных: | | | |
| | а) Калгаспадарак . . . . . . | | | |
| | б) Саўгаспадарак . . . . . . | | — | |
| 2 | На справаздачны дзень з паказанай агульнай колькасьці афармлена адводамі зямель: | | | |
| | а) Калгаспадарак . . . . . . | | | |
| | б) Саўгаспадарак . . . . . . | | — | |
| 3 | За апошнюю ДЭКАДУ: | | | |
| | а) Узбуйнена існуючых калгаспадарак . | | — | — |
| | б) Узбуйнена існуючых саўгаспадарак . | | — | — |
| | в) Колькасьць зьнятых з падліку калгаспадарак, як асобных аб'яднаньняў, дзякуючы злучэньню іх у буйныя колгаспадаркі . . . . . | | — | — |

*Начальнік Раённай Земляўпарадчай партыі* *(подпіс)*

Падана ў АКРЗА / Віц. АВК
поштай ____/____ 1930 г.
тэлефанаграмай ____/____ 1930 г.
тэлеграмай ____/____ 1930 г.

**Дадатак № 2.**

Форма № 2.

## ТЭЛЕГРАМА

**Земгрупе НКЗ**

Становішча ____ дзень ____ арганізавана калгаспадарак ____ двароў ____ га ____ тчк саўгаспадарак ____ га ____ тчк адведзена калгаспадарак ____ двароў ____ га ____ тчк саўгаспарадак ____ га ____ тчк справаздачнай дэкаде ўзбуйнена калгаспадарак ____ саўгаспадарак ____ злучана калгаспадарак ____

*Подпіс*

---

### Парадак складаньня і падачы.

Форма № 1.

1. Пачынае складацца начальнікам земляўпарадчай партыі раёну з 20-га студзеня 1930 г. па-дэкадна праз кожныя 10 дзён, г. зн. тэрмін другой дзесяціднёўкі 1/II, трэцяй—10/II і г. д.

Лічбы становішча колькасьці ўсяго створаных, а таксама і афармленых адводам зямель калгаспадарак і саўгаспадарак на 20/I абавязкова павінны быць тыя, якія РВК мае і пакажа ў першай сводная справаздачы па форме № 1, устаноўленай НКЗ СССР і НКРСІ СССР („Изв. ЦИК СССР" за 3/I-30 г. № 3). Гэта зн., адразу трэба ўстанавіць і ведаць — з якога проценту ўжо зробленай калектывізацыі мы пачынаем наш зімовы паход і каб далейшымі дзесяціднёўкамі ўжо даваўся-б нарастаючы падрахунак вынікаў калектывізацыі. У далейшым гэтыя лічбы таксама павінны быць аднолькавыя. Прычым дзеяньні зімовага паходу трэба клясыфікаваць, як правядзеньне прасьцейшага земляўпарадкаваньня ў калгаспадарках, чаму вынікі ў саюзнай форме № 1 сельскімі саветамі і РВК павінны паказвацца пад № 21 пытаньняў і адказаў.

2. Нач. земляўпарадчай партыі на наступны дзень па зыходзе дэкады павінен, узгадніўшы з РВК, падаць гэтую справаздачу акруговаму земляўпарадчыку (інспэктару земляўпарадкаваньня Віцебскага АВК) ці па пошце, ці па тэлефону, ці лістом-тэлеграмай (прыстасоўна да формы № 2) у залежнасьці ад мясцовых умоў сувязі, з такім разьлікам, каб акруга мела-б раённыя вынікі не пазьней 3-х дзён па зыходзе дэкады.

Форма № 2.

1. Акруговы земляўпарадчык (інспэктар па земляўпарад. Віцебскага АВК) кожнага 24, 4 і 14 робіць акруговую сводку лістом-тэлеграмай, паведамляючы Земгрупу Наркамзему. Прычым, як правіла, адсутнічаньне чарговай 10-ціднёўкі ад таго ці іншага нач. партыі не павінны затрымліваць складаньня ў тэрмін акруговай сводкі. У гэтым выпадку па такому раёну ў акруговую сводку ўключаюцца лічбы папярэдняй дэкады, а ў лісьце-тэлеграме робіцца дадатак: прыкладна—„дванаццаць пятнадцаці" г. зн. дванаццаць нач. раённых партый справаздачу далі, а тры ня далі. Ясна, што гэта зьявішча абавязвае акругу прыняць меры рэпрэсіі да вінаватых.

Расшыфроўка тэлеграмы.

СТАНОВІШЧА (паказваецца дзень: 1 ці 10 ці 20) дзень (паказваецца назва м-ца: студзеня ці лютага і г. д.) АРГАНІЗАВАНА КАЛГАСПАДАРАК (лічба агульнай колькасьці калгаспадарак, якая маецца на канец дэкады) ДВАРОЎ (агульная колькасьць двароў ці сем'яў у арганізаваных калгасах) ГА (агульная плошча ў гэктарах) ТЧК (кропка) САЎГАСПАДАРАК (агульная колькасьць на канец дэкады) ГА (агульная плошча іх у гэктарах) ТЧК АДВЕДЗЕНА КАЛГАСПАДАРАК (лічба колькасьці калгаспадарак, якім зроблены адвод зямлі з паказаньнем яравога кліну) ДВАРОЎ (агульная колькасьць двароў ці сем'яў у адведзеных калгаспадарках) ГА (агульная плошча іх у гэктарах) ТЧК, САЎГАСПАДАРАК (лічба колькасьці саўгаспадарак, якім зроблен адвод зямлі) ГА (плошча іх у гэктарах) ТЧК СПРАВАЗДАЧНАЙ ДЭКАДЗЕ ЎЗБУЙНЕНА КАЛГАСПАДАРАК (паказваецца лік існуючых калгаспадарак, якія ўзбуйнены ці толькі па плошчы без павялічэньня двароў, ці з тым і другім) САЎГАСПАДАРАК (лік саўгаспадарак, якім прырэзана плошча) ЗЛУЧАНА КАЛГАСПАДАРАК (паказваецца колькасьць зьнятых з падліку калгаспадарак, як асобных аб'яднаньняў, дзякуючы злучэньню іх у больш буйныя калгаспадаркі).

Агульныя заўвагі:

2. Па Рагачоўска-Жлобінскаму Агракамбінату начальнік земляпарадчых работ копію справаздачы па форме № 1 адначасова з падачай аргіналу Бабруйскаму АКРЗА непасрэдна падае ў Земгрупу НКЗ.

3. Усе начальнікі земляўпарадчых партый і работ павінны па аднаму экзэмпляру кожнай дзесяціднёўкі з адзнакай даты і спосабу падачы захоўваць ў сябе ў мэтах далейшага кантролю. Акруговыя земляўпарадчыкі і Інспэктар па земляўпарадкаваньню Віцебскага АВК раённыя дзесяціднёўкі па форме № 1 захоўваюць разам з чарнавым лістом тэлеграмы па форме № 2, далучаючы да адпаведнай справы ў храналёгічным парадку.

4. Увядзеньнем гэтых форм адмяняецца распараджэньне Земгрупы НКЗ за 2/I—1930 г. № 64-1.

---

## 11. Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства БССР пра адстрэл 132 дзікоў.

Для пазбаўленьня вясковага насельніцтва ад страт, якія прычыняюцца дзікамі ў месцах іх найбольшага расплоджваньня, Народны Камісарыят Земляробства пастанаўляе:

1. Дазволіць адстрэл 132 дзікоў у тэрмін да 15 лютага г. г. па лясьніцтвах Менскай, Магілеўскай, Мазырскай і Бабруйскай акруг, выходзячы з наступнага разьліку:

| Акруга | Лясьніцтвы | Колькасьць | Увага |
|---|---|---|---|
| Менская | Гаінскае | 3 | |
| | Плешчаніцкае | | |
| | Нёманскае | 1 | |
| Магілеўская | Нёмкаўскае | 5 | |
| | Цехцінскае | 3 | |

| Акруга | Лясьніцтва | Колькасьць | Увага |
|---|---|---|---|
| Мазырская | Данілевіцкае | 20 | |
| | Мілашэвіцкае | | |
| | Нараўлянскае | 10 | |
| | Мялешкавіцкае | | |
| | Людзяневіцкае | 10 | |
| | Тураўскае | | |
| | Жыткавіцкае | | |
| | Дарашэвіцкае | 5 | |
| | Камаровіцкае | | |
| | Азяранскае | 15 | |
| Бабруйская | Клічаўскае | 6 | |
| | Сьвіслацкае | | |
| | Любонцкае | | |
| | Крукаўскае | 10 | |
| | Чырвона-Слабодзкае | 15 | |
| | Бродзкае | 4 | |
| | Дзякавіцкае | 25 | |

Увага: Паляваньне на дзікоў у заказьніках не дазваляецца.

2. Паляваньне на дзікоў (аблавамі і адзіночным парадкам) правесьці выключна з ведама лясьнічных, або асоб па іх даручэньні з тым, каб норма адстрэлу ня была перавышана.

Народны Камісар Земляробства БССР *П. Рачыцкі.*

16 студзеня 1930 г.

---

## 12. Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства БССР пра арганізацыю паляўнічых заказьнікаў у Магілеўскай акрузе.

Народны Камісарыят Земляробства БССР пастанаўляе арганізаваць паляўнічыя заказьнікі ў Магілеўскай акрузе тэрмінам на 5 год, пачынаючы з 20 студзеня 1930 г. і да 20 студзеня 1935 г. у наступных лясьніцтвах:

1) Цехцінскае лясьніцтва, Дручанская дача (б. Пілаўская), на плошчы 6000 га, у кварталах №№ 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 13, 14, 15, 19, 20, 21, 22, 23, 24, 25, 26, 32, 33, 34, 35, 36, 37, 38, 43, 44, 45, 46, 47, 48, 53, 54, 55, 56, 57, 58, 59, 60, 65, 66, 67, 68, 69, 70, 71, 72, 73, 74, 75, 76, 77, 78, 79, 80, 81, 82, 83, 84 і 85;

2) Азерскае л-ва, Азерская дача, на плошчы 2400 га, у наступных межах: пачатковы пункт—стык меж, дзяржлесфонду (63 кв.), сялянскіх землякарыстаньняў і шашы Чэрыкаў—Прапойск, адгэтуль па шашы ў бок Прапойску да ўзьлесься 62 кварт., далей па ўзьлесьсю да возера Ўзмутнае—возера Ўзмутнае—узьлесьсе 58, 51, 50 і 41 кв. да дарогі з хутара Чарнышын II — дарога з хут. Чарнышын II на в. Усохі, узьлесьсе 21 кварт. да дарогі з в. Усохі на в. Аляксандраўку, дарога з в. Усохі на в. Аляксандраўку да ўзьлесься—узьлесьсе да пачатковага пункту;

3) Чэрыкаўскае л-ва, Вепрынская дача (уроч. „Абаленшчына"), на плошчы 2700 га, у кварталах №№ 29 (заходн. частка), 36, 37 (зах. частка), 47, 48, 49, 50 (зах. частка), 63, 64, 65, 66 (зах. частка), 77, 78, 79, 80, 81 (паўн.-заходн. частка), 91, 92, 93, 94, 95 (паўночн.-заходн.

частка), 105, 106, 107, 108, 109, 110 (паўноч.-заходн. частка), 116, 117, 118 (паўн.-зах. частка), 125 і 126 (паўноч. і заходняя частка)—увесь кавалак лесу на захад ад шляху з г. Чэрыкава ў Краснапольле;

4) Панькаўскае л-ва, Панькаўская дача, на плошчы каля 2600 га, у наступных межах: пачатковы пункт месца ўваходу дарогі Калодліва—Панькі ў лес (17 кв.), па гэтай дарозе да заходняга берагу возера, што паміж 48, 64 і 63 кварталамі, далей па берагу возера да ўзьлесься і па апошняму да дарогі Зацішша—Кавышыцы, па гэтай дарозе да паўднёвага ўзьлесься, адсюль па ўзьлесьсю на ўсход да дарогі з вёскі Кавышыцы ў в. Баравая, па дарозе Кавышыцы—Баравая да ўзьлесься і па ўзьлесьсю да дарогі з в. Паньк. Буда ў м. Бялынкавічы, па дарозе Паньк. Буда—Бялынкавічы да ўзьлесься, па ўзьлесьсю (з усходу) да дарогі з в. Белы Камень у в. Калодліва, дарога Белы Камень—в. Калодліва да ўзьлесься (на поўнач) і па ўзьлесьсю да пачатковага пункту;

5) Нёмкаўскае л-ва, Нёмкаўская дача, на плошчы каля 4200 га, у наступных межах: з усходу—узьлесьсе паміж шляхамі Быхаў—Бабруйская шаша і в. Чарабаміркі—Бабруйская шаша, з паўднёвага боку—шлях Чарабаміркі—Бабруйская шаша, з поўначы—шлях Быхаў—Бабруйская шаша і землякарыстаньне в. Пярунова, з захаду—дарога, якая злучае гэтыя шляхі, праходзячы праз кварталы 103, 93, 94, 84, 75, 76, 66 і 67;

6) Цехцінскае л-ва, Зборна-Задруцкая дача (уроч. „Крыжаў Бор“), 1—12 квартал уключна з далучэньнем сенажацяў вёскі Краснае і Стэфанова, што паміж р. Нерапля, 1, 2, 5, 4 і 8 кв. і лесу мясцовага значэньня вёсак Прыхабы, Краснае і Стэфанова—усяго на плошчы 1500 га ў наступных межах: з паўднёвага і паўднёва-ўсходняга боку—шлях Бялынічы—Брэнькава, з паўднёва-заходняга—ўзьлесьсе 12 і 8 кварталаў, з заходняга і паўночна-заходняга—р. Нерапля, з паўночнага і паўночна-ўсходняга—узьлесьсе 1 кв. і лесу мясц. значэньня в. Краснае;

7) Дняпроўскае л-ва, Грудзінаўская дача (ур. „Гадылеўскае балота“), кварталы №№ 8 (частка на ўсход ад шашы Магілеў—Кіеў), 9, 10, 11, 18 (частка на ўсход ад шашы Магілеў—Кіеў), 19, 20, 21, 28 (частка на ўсход ад шашы Магілеў—Кіеў), 29, 30, 31, 32, 33, 34, 41 (частка на ўсход ад шашы Магілеў—Кіеў), 42, 43, 44, 45, 46, 47, 57 (частка на ўсход ад шашы Магілеў—Кіеў), 58, 59, 60, 61, 62, 63, 64, 78, 79, 80, 81, 82, 93, 94, 95, 96 з уключэньнем у заказьнік Вялікага і Малага Гадылеўскіх вазёр—усяго на плошчы каля 1200 га (галоўная мэта заказьніка—ахова і размнажэньне вадаплаваючай дзічы);

8) Магілеўскае л-ва, Ямніцкая дача, кварталы №№ 9, 10, 11, 12, 13, 14, 16, 17, 18, 19, 20, 21, з уключэньнем у заказьнік зямель с.-г. карыстаньня, якія абмяжоўваюцца з усходу р. Лахва, з захаду—узьлесьсем 21, 20, 18 і 12 кварталаў, з поўначы—дарога Ямніца—Чамернае на вучастку ад 12 да 14 кварт., з паўночна-ўсходн. боку—узьлесьсе 14 і 13 кварталаў, усяго па плошчы каля 1300 га.

Магілеўскаму АКРЗА ўжыць належныя захады да вызначэньня межаў заказьнікаў у натуры паводле абежніку НКЗ БССР 1929 г. № 10.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР *К. Масюкоў*.
За Загадчыка Кіраўніцтва Лясамі *Л. Кофман*.
Інспэктар Паляўнічай Гаспадаркі *Ю. Дзярыба*.

28 студзеня 1930 г.

## 13. Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### пра арганізацыю паляўнічых заказьнікаў у Буйнавіцкім, Мялешкавіцкім і Прыпяцкім лясьніцтвах Мазырскай акругі.

Народны Камісарыят Земляробства БССР пастанаўляе арганізаваць у Мазырскай акрузе наступныя паляўнічыя заказьнікі на тэрмін з 1 лютага 1930 году да 1 лютага 1935 году:

1) У Махнавіцкай дачы Буйнавіцкага лясьніцтва — кв. №№ 45-47, 55-57, 67-69 і 80 і Махнавіцкай дачы Мялешкавіцкага лясьніцтва — кв. №№ 48-50, 58-60, 70-72, 81-83, 90-92, 99-101, 105-107, 111-113, 117-118 і 122 (па даных абсьледваньня 1926 г.), усяго на плошчы 4488 га.

2) У Сьнядзінскай дачы Прыпяцкага лясьніцтва (па даных абсьледваньня) кв. кв. №№ 1, 2, 4, 5-6, 10 і 11, усяго на плошчы 2500 га.

Нам. Народнага Камісара Земляробства
БССР *П. Панiматка.*

Загадчык Ляснога Кіраўніцтва НКЗ БССР *Я. Пятрушын.*

Інспэктар Паляўнічай Гаспадаркі *Ю. Дзярыба.*

5 лютага 1930 г.

---

## 14. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### пра спагнаньне пратэрмінаваных пазычак у сыстэме сельска-гаспадарчага крэдыту.

*Усім акруговым судам і акруговым пракурорам.*

Па дакладу пра вынікі працы сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту па мабілізацыі сродкаў насельніцтва і спагнаньні пратэрмінаваных пазычак, Савет Народных Камісараў БССР, паміж іншым, адзначыў недапушчальную цяганіну і бюракратызм з боку органаў суда і міліцыі ў справе спагнаньня пратэрмінаваных пазычак. Былі выпадкі невыкананьня судовага загаду на працягу году. Недастатковы быў нагляд за выдачай пазычак, якія часта выдаваліся не па прызначэньню — кулацкім гаспадаркам, нібы - калгасам, асобам, якія не займаюцца сельскай гаспадаркай і інш.

На падставе гэтага Народны Камісарыят Юстыцыі БССР прапануе зьнішчыць цяганіну ў спагнаньні пратэрмінаваных пазычак і асабліва рашуча ўзьдзейнічаць у спагнаньні пазычак з тых асоб, якія атрымалі іх няправільна. Пракуратуры па агульнаму нагляду ўзмацніць нагляд за правільным крэдытаваньнем сялянства. Па справах службовых асоб, якія прыцягваюцца за няправільную выдачу пазычак, прыцягваць грамадзкую думку. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на хуткасьць выкананьня судовых загадаў.

Народны Камісар Юстыцыі
і Пракурор Рэспублікі БССР *А. Сташэўскі.*

6 студзеня 1930 г.
№ 4.

---

## 15. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Найвышэйшага Суда БССР

### пра выбары сельскіх судоў.

*Усім акруговым судам і акруговым пракурорам.*

ЦВК і СНК БССР 27 сьнежня 1929 г. выдана „Палажэньне пра сельскія і местачковыя суды“ (З. З. БССР 1930 г., і № 3, пастановы 13 і 14).

Паводле пастановы Прэзыдыуму ЦВК за 27/I—1930 г., выбары сельскіх судоў павінны быць праведзены адначасова з выбарамі сельскіх саветаў, якія пачынаюцца з 15/II—1930 г. Перавыбары сельскіх саветаў будуць не ва ўсіх мясцох, а ў часьці, але-ж там, дзе ня будзе перавыбараў, будзе праводзіцца справаздачная кампанія саветаў, да якіх таксама павінна быць далучана выбарная кампанія па сельсудох.

Улічваючы вялікую палітычную важнасьць арганізацыі сельскіх судоў, як першага масавага вопыту перадачы часткі функцый дзяржаўнага апарату працоўнаму насельніцтву вёскі, а таксама практычную важнасьць іх работы, паколькі ў падсуднасьць сельскіх судоў адыходзіць да 50% спраў, зараз падсудных народным судам, яны набываюць значную ролю па палітычнаму і культурна-бытавому выхаваньню мас сялянства.

Найвышэйшы Суд прапануе акруговым органам юстыцыі сканцэнтраваць увагу ўсёй савецкай грамадзкасьці навакол выбараў сельскіх судоў.

Патрэбна прыняць меры, каб уцягнуць у склад сельсудоў бядняцка-батрацкую і лепшую частку серадняцкага сялянства, з ліку тых, якія карыстаюцца дастатковым аўтарытэтам і якія змогуць забясьпечыць пралятарскую клясавую лінію ў рабоце сельсудоў. У склад сельсудоў трэба ўцягнуць дастатковую колькасьць жанчын.

Уся праца па выбарах і падвядзеньню вынікаў выбараў праводзіцца нарсудом разам з выбарнымі камісіямі, дзе будуць перавыбары, вынікі на выбарах канцэнтруюцца праз адпаведныя народныя суды ў акруговым судзе. Каб не зацягнуць справы па арганізацыі сельскіх судоў, на бліжэйшым пленуме сельскага савету трэба зацьвердзіць уноў абраны склад сельскага суда, вылучыўшы пры гэтым старшыню і намесьніка старшыні сельсуда, а пастанову аб вылучаных кандыдатурах (старшыні і яго намесьніка) неадкладна пасылаць на зацьверджаньне РВК.

Пасьля выбараў сельскіх судоў раённыя органы юстыцыі, дагаварыўшыся з РВК, павінны склікаць нараду ўсіх членаў сельскіх судоў для інструктаваньня іх і растлумачэньня ім іх задач.

Трэба ўжыць усе заходы да забясьпечаньня сельскіх судоў тэхнічным абслугоўваньнем і сачыць, асабліва спачатку, за іх працай, каб гэтым максымальна ўнікнуць мажлівых у пачатку арганізацыі гэтай новай і вялізарнай справы памылак.

Пасьля сканчэньня выбараў сельскіх і местачковых судоў вынікі іх трэба неадкладна прыслаць у Найвышэйшы Суд, прычым павінны быць даны наступныя весткі:

1) колькі арганізавана сельскіх (местачковых) судоў;

2) склад сельскіх судоў: агульная колькасьць, з іх мужчын, жанчын, рабочых, служачых, беднякоў, батракоў, сераднякоў і з іх калгасьнікаў.

3) партсклад, паасобна паказаць колькасьць членаў КП(б)Б і камсамольцаў;

4) нацыянальнасьць складу.

Справы народных судоў, якія па падсуднасьці падлягаюць разбору ў сельскіх судах, але паступілі ў нарсуд да выбараў сельскіх судоў, канчаткова разьбіраюцца ў народным судзе.

Пра выбары таварыскіх судоў паказаньне будзе дадзена асобна.

У бліжэйшы час выйдзе з друку папулярная брашура ў дапамогу сельскім судам.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР
і Старшыня Найвышэйшага Суда *П. Валасевіч.*

Член Найвышэйшага Суда і Інспэктар
сельскіх і таварыскіх судоў *А. Арагаў.*

29 студзеня 1930 г.
№ 1 — В. 111-а.

---

Узгоднена з Арганізацыйным
Аддзелам ЦВК БССР.

## 16. Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

### пра дачу і зьмену назваў вуліц, пляцоў, прадпрыемстваў і рэгістрацыю іх.

Пры зьмене назваў вуліц, пляцоў, прадпрыемстваў і наданьні новых назваў патрэбна мець на ўвазе наступнае:

1. Кожная зьмена назвы, вядомай усяму насельніцтву, выклікае заўсёды шмат непаразуменьняў і блытаніні. З прычыны гэтага, наогул, трэба рабіць зьмены назваў толькі ў тым выпадку, калі такія зьмены зьяўляюцца канечне патрэбнымі.

2. Назвы, якія зьвязаны з перажыткамі буржуазнага клясавага прыгнечаньня і ў якіх адбіваюцца нацыянальныя, саслоўныя і рэлігійныя забабоны, павінны быць зьменены.

3. Новыя назвы пажадана даваць такія, якія зьвязаны з рэвалюцыйнымі падзеямі і прозьвішчамі рэвалюцыйных і грамадзкіх дзеячоў, памяць аб якіх зьяўляецца каштоўнай для насельніцтва. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што перайменаваньне імём У. І. Ульянава (Леніна) гарадоў, вуліц, пабудоў, устаноў і г. д. без дазволу на гэта Прэзыдыуму ЦВК СССР забаронена.

4. Назвы, якія маюць гістарычнае значэньне і якія каштоўны як помнікі старажытнасьці, неабходна захоўваць.

5. Узбуджаць пытаньні аб наданьні новых назваў вуліц, пляцоў, прадпрыемстваў і інш. могуць усе зацікаўленыя ў гэтым установы, грамадзкія арганізацыі і прыватныя асобы. Заявы аб гэтым падаюцца ў мясцовы сельскі, местачковы, альбо гарадзкі савет, якія могуць узбуджаць гэтае пытаньне і па сваёй ініцыятыве.

6. Назвы вуліц, пляцоў, устаноў і прадпрыемстваў мясцовага значэньня канчаткова зацьвярджаюцца тым сельскім, местачковым і гарадзкім саветам, на тэрыторыі якога яны знаходзяцца. Назвы прадпрыемстваў акруговага значэньня канчаткова зацьвярджаюцца акруговымі выканаўчымі камітэтамі.

7. Зьмены назваў і наданьне новых заўсёды павінны быць апублікаваны ў мясцовым друку і паказаны на шыльдах, на рагох вуліц і пляцоў і на будынках, у якіх знаходзіцца прадпрыемства.

8. Рэгістрацыя існуючых назваў вуліц, пляцоў і прадпрыемстваў, зьмен іх і наданьне новых павінна адбывацца наступным чынам: гарадзкія і местачковыя саветы павінны мець сьпісы назваў усіх вуліц, завулкаў, пляцоў, якія знаходзяцца на тэрыторыі, падпарадкаванай гораду, альбо мястэчку. Асобна гэтыя саветы павінны мець сьпіс усіх прадпрыемстваў, якія знаходзяцца на іх тэрыторыі. У гэтыя сьпісы павінны заносіцца ўсе зьмены назваў з паказаньнем, на падставе якой пастановы гарсавету, АВК даная назва была ўстаноўлена.

Увага. На тэрыторыі, падпарадкаванай гораду і мястэчку, ўсе вуліцы абавязкова павінны мець назвы, якія павінны быць абазначаны шыльдамі ў канцох і па рагох вуліц.

9. Райвыканкомы павінны мець сьпісы ўсіх прадпрыемстваў, якія знаходзяцца на тэрыторыі раёну.

10. Тэрмін складаньня сьпісаў назваў вуліц, пляцоў, прадпрыемстваў — да 1-га сакавіка г. г.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных
Спраў БССР *Я. Кроль.*

20 студзеня 1930 г.
№ 5.

---

## 17. Абежнік народных камісарыятаў Унутраных Спраў, Працы і Юстыцыі БССР

### пра парадак падліку і накіроўваньня на работу беспрацоўных, асуджаных і прыгавораных да прымусовых работ.

Для ўпарадкаваньня падліку і накіроўваньня на работу беспрацоўных, якім прызначаны прымусовыя работы без утрыманьня пад вартай, па судовых прыгаварах або пастановах адміністрацыйных органаў, НКУС, НКП і НКЮ БССР прапануюць правесьці наступныя мерапрыемствы:

1. Органы, ведаючыя прымусовымі работамі, павінны паведамляць біржы працы аб беспрацоўных, асуджаных судамі і адміністрацыйнымі ўстановамі да прымусовых работ без утрыманьня пад вартай, на тэрмін ад 1 месяца і вышэй, прычым у паведамленьні павінны быць паказаны: прозьвішча, імя і імя па бацьку асобы, што прыгаворана да прымусовых работ, яе прафэсія, па магчымасьці чарговы нумар, пад якім яна запісана беспрацоўнай на біржы працы, і прызначаны ёй тэрмін прымусовых работ.

2. Біржы працы, пасьля атрыманьня паказаных вестак, здымаюць гэтых асоб з падліку і паведамляюць у страхкасы аб зьняцьці іх з дапамогі на ўвесь час адбываньня прымусовых работ.

Увага. Пры атрыманьні паведамленьня аб адтэрмінаваньні адбываньня прымусовых работ для паасобных асоб, біржы працы застаўляюць гэтых асоб на дзейнічаючым падліку і накіроўваюць на працу на агульных падставах на пэрыяд адтэрмінаваньня, а таксама на гэты пэрыяд аднаўляюць ім дапамогу.

3. Пасьля адбыцьця тэрміну прымусовых работ і прадстаўленьня на біржы працы адпаведных даведак органу, які ведае прымусовымі

работамі, адбыўшыя іх беспрацоўныя зноў прымаюцца на падлік біржы працы ў якасьці беспрацоўных, прычым прыняцьце на падлік разглядаецца біржамі працы, як новая прапанова аб працы.

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *П. Валасевіч.*

4 лютага 1930 г.
№ 10.

---

## 18. Загад па Вышэйшаму Савету Народнае Гаспадаркі БССР і Народнаму Камісарыяту Гандлю БССР

**пра зьніжэньне адпускных цэн на прадукцыю лясной і дрэваапрацовачнай прамысловасьці.**

На падставе загаду па ВСНГ і НКГ СССР за 30/XI — 1929 г. за № 303/108 прапануецца:

I. Утварыць з 1-га кастрычніка 1929 г. зьніжэньне адпускных цэн на прадукцыю лясной і дрэваапрацовачнай прамысловасьці як падпарадкаванай ВСНГ БССР, так і мясцовай, у наступных разьмерах:

1) піламатарыялы (усіх прызначэньняў, апроч тарніку) . . . . . . . на 6%
2) круглы лес усіх прызначэньняў (апроч шпал і судаст.) . . . . . . на 6%
3) дровы . . . . . . . . на 5%
4) фанеру . . . . . . . на 8%
5) мэблю . . . . . . . на 5%
6) інш. спэцвытворчасьці (апроч пробачнаізаляц. выраб.) . . . . . . на 5%

II. Усім вытворчым і гандлюючым арганізацыям утварыць зьніжэньне адпускных цэн з устаноўленых для іх прэйскурантаў на 30/XI 1929 г., а пры адсутнічаньні такіх — з фактычных адпускных цэн на той-жа дзень у адпаведнасьці з арт. I гэтага загаду.

Зьніжаныя цэны павінны быць устаноўлены і ўведзены ў дзейнасьць не пазьней 1-га лютага 1930 г.

III. Па цэнах, якія ўноў устаноўлены — прамысловым прадпрыемствам і гандлюючым арганізацыям зрабіць з сваімі пакупнікамі перарахунак па ўсёй прадукцыі, якая адгружана ці здадзена (калі ў дагаворах не абумоўлена пагрузка) пакупнікам за час з 1/X—1929 г. да 1/II—1930 г.

Паказаны перарахунак скончыць не пазьней 15 лютага 1930 г.

Паказаным арганізацыям даслаць пакупнікам выпіскі рахункаў з зробленым перарахункам не пазьней 15-га лютага 1930 г. Узьнікаючыя ў пакупнікоў па атрыманых выпісках з рахункаў пратэнзіі павінны быць заяўлены не пазьней 15 сакавіка 1930 г.; пратэнзіі па перарахунках, якія не заяўлены ў паказаны тэрмін, разгляду не падлягаюць.

Старшыня Вышэйшага Савету
Народнае Гаспадаркі БССР *Р. Грысевіч.*

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР *М. Абрамсон.*

Сакратар ВСНГ БССР *Змачынскі.*

15 студзеня 1930 г.

Сакратар НКГ БССР *Ракаў.*

## 19. Загад па Вышэйшаму Савету Народнае Гаспадаркі БССР

### пра праверку акулярнага шкла і прыладаў для вымерваньня аптычнай якасьці яго.

Паводле загаду ВСНГ СССР за 11 красавіка 1927 г. № 625, ВСНГ БССР загадвае:

1. Усе наборы спробнага акулярнага шкла і прылады для вымерваньня аптычнай якасьці акулярнага шкла, а таксама акуляры-пэнснэ і асобнае акулярнае шкло падлягаюць абавязковай праверцы і кляйменьню, якія робяцца паводле правіл, выдадзеных Галоўнай Палатай Мерак і Вагаў.

2. Усе наборы спробнага акулярнага шкла, якія знаходзяцца ў дзяржаўных, каперацыйных, грамадзкіх і прыватных клініках, больніцах, амбуляторыях і габінэтах, дзе падбіраюцца і прыпісваюцца акуляры, павінны быць праверaны не пазьней за 1/X-1930 г.

3. Дзяржаўныя, каперацыйныя, грамадзкія і прыватныя аптычныя крамы, склады і майстэрні павінны, па патрабаваньню заказчыка, за яго кошт выдаваць зробленыя паводле рэцэптаў доктара акуляры або пэнснэ з адзнакай Беларускай Палаты Мерак і Вагаў аб адпаведнасьці іх да рэцэпту доктара.

4. Дзяржаўныя, каперацыйныя, грамадзкія і прыватныя аптычныя крамы, склады і майстэрні павінны ўжываць прылады для мераньня рэфракцыі і інш. аптычнай якасьці акулярнага шкла толькі тых тыпаў, якія лічацца годнымі для паказанай мэты, паводле правіл Галоўнай Палаты Мерак і Вагаў.

5. Праверка і кляйменьне набораў спробнага шкла, якія прыбываюць з замяжы праз адпаведныя мытніцы, а таксама набораў спробнага шкла, якія вырабляюцца ў БССР, робіцца паводле адпаведных законаў і правіл пры праверцы і кляйменьні мерак і вагаў.

6. Беларускай Палаце Мерак і Вагаў прапануецца не пазьней за 1/I-1931 г. праверыць выкананьне гэтага загаду і, у выпадку выяўленьня парушэньня правіл кляйменьня і праверкі паказаных у п. 1 рэчаў і прыладаў, прыцягваць віноўных асоб да адказнасьці паводле арт. 154 К. К.

7. Пры праверцы і кляйменьні набораў спробнага акулярнага шкла, акуляраў, пэнснэ, асобнага акулярнага шкла кіравацца далучанай да гэтага зацьверджанай Прэзыдыумам ВСНГ БССР за 7/IV-1927 г. таксай і адпаведнымі правіламі Галоўнай Палаты Мерак і Вагаў.

Нам. Старшыні Вышэйшага Савету
Народнай Гаспадаркі БССР *Васкабойнікаў.*

За Сакратара ВСНГ БССР *Змачынскі.*

20 студзеня 1930 г.
№ 130.

---

Дадатак.

### ТАКСА.

1. Праверка набору спробнага шкла, якое мае мінімальны склад, паказаны ў § 1 правіл праверкі і кляйменьня набораў спробнага шкла . . . . . . . . . . . 25 руб.

2. Праверка асобнага шкла набору спробнага акулярнага шкла звыш паказанага мінімуму:

а) сфэрычнае шкло . . . . . 30 кап.
б) цыліндрычнае шкло . . . . 40 „

| | |
|---|---|
| в) прызматычнае „ . . . . | 30 кап. |
| г) нэйтральнае „ . . . . | 1 р. 25 „ |
| д) каляровае „ . . . . | 1 р. 75 „ |

3. Праверка акуляраў і пэнснэ:

| | |
|---|---|
| а) Акуляры або пэнснэ з сфэрычн. шклом . . . . . . | 50 „ |
| б) Акуляры або пэнснэ цыліндрычн. | 75 „ |
| в) „ „ „ з сфэрацыліндрычн. шклом . . . . . | 1 р. — |
| г) Акуляры або пэнснэ з прызматычн. шклямі . . . . . . | 75 „ |
| д) Акуляры, або пэнснэ з сфэрапрызматычн. шкл. . . . . . | 1 р. — |
| е) Акуляры або пэнснэ з цыліндрапрызматычнымі шклямі . . | 1 р. 25 „ |

4. Поўная спроба асобнага акулярнага шкла паводле правіл аб спробе асобнага акулярнага шкла:

| | |
|---|---|
| а) сфэрычнае шкло . . . . . | 35 кап. |
| б) цыліндрычнае . . . . . | 45 „ |
| в) сфэра-цыліндрычнае . . . | 50 „ |
| г) прызматычнае . . . . . | 45 „ |
| д) сфэра-прызматычнае . . . | 60 „ |
| е) цыліндр.-прызматычн. . . . | 70 „ |
| ж) нэйтральнае шкло . . . . | 1 р. 50 „ |
| з) каляровае шкло . . . . . | 2 „ — |

5. Асобныя спробы акулярнага шкла, паводле пказаных вышэй правіл:

| | |
|---|---|
| а) вымерваньне задняй або пярэдняй рэфракцыі ў адным папарэч. | 15 кап. |
| б) Вымерваньне адхіленьня прызмы | 25 „ |
| в) вымерваньне цэнтра . . . . | 10 „ |
| г) вызначэньне напрамку восі цыліндра . . . . . . . . | 15 „ |
| д) вызначэньне напрамку лініі „вяршыня-грунт“ прызмы . . . . | 20 „ |
| е) знадворны агляд шкла і спроба на адсутнасьць нацяжэньня, сьвіляў і пузыроў . . . . . . | 20 „ |
| ж) вымерваньне празрыстасьці нэйтральнага шкла . . . . . | 1 р. 50 „ |
| з) вымерваньне нэйтральнасьці нэйтральн. шкла . . . . . | 1 р. 25 „ |
| і) вызначэньне касой выбіральнай празрыстасьці каляровага шкла . | 1 р. 50 „ |
| к) праверка анастыгматычнасьці аднаго акулярнага шкла . . . | 1 „ — |
| л) праверка анастыгматычнасьці шкла акуляраў або пэнснэ . . . | 1 р. 50 „ |

Выдана ў разьвіцьцё пастановы СНК БССР—пратакол № 25, п. 997, за 22/X-1929 г., § 16.

## 20. Інструкцыя народных камісарыятаў Аховы Здароўя і Земляробства БССР

### пра правядзеньне мэдыка-санітарных мерапрыемстваў у зьвязку з разгортваньнем мэліарацыйных работ.

1. Мэліарацыйныя мерапрыемствы маюць вялікае значэньне ня толькі ў гаспадарчых адносінах, але і ў санітарных, а таму плян працы і парадак гэтых мерапрыемстваў павінны быць зьвязаны з патрэбамі, плянам і парадкам санітарнага аздараўленьня залюдненых месц.

2. Пункты мэліарацыйных мерапрыемстваў, у мэтах санітарнага аздараўленьня іх, вызначаюцца мясцовым санітарным наглядам, і заяўкі аб гэтым падаюцца мэліарацыйным органам для ўключэньня гэтых мерапрыемстваў у плян працы.

3. Парадак санітарнага аздараўленьня паасобных месц праз мэліарацыю павінен вызначацца паводле важнасьці знаходзячыхся там залюдненых пунктаў у эканамічна-гаспадарчых адносінах і наяўнасьці і ступені ў іх трасцы.

4. У першую чаргу павінна быць зьвернута ўвага на асушку забалочаных месц, спуск стаячых вадазбораў і прачыстку рэк, якія знаходзяцца паблізу залюдненых месц ці на самай іх тэрыторыі, асабліва прамысловых прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў.

5. Складзеныя мэліарацыйнымі органамі пляны работ узгадняюцца з санітарнымі органамі як на мясцох, так і ў цэнтры.

6. Больш важныя і вялікія мэліарацыйныя мерапрыемствы ў санітарных адносінах павінны ўключацца пераважна ў дзяржаўны бюджэт.

7. Пры складаньні плянаў гідратэхнічных работ павінна быць уключана наяўнасьць санітарнага дабрабыту вадазабясьпечаньня паасобных залюдненых месц і новае будаўніцтва, асабліва сацыялістычнага сэктару сельскае гаспадаркі—калгасаў і саўгасаў.

8. Парадак аздараўленьня вадазабясьпечаньня паасобных залюдненых пунктаў вызначаецца мясцовымі санітарнымі органамі паводле даных існуючага санітарна-тэхнічнага становішча, ступені захвораньняў страўна-кішэчнымі інфэкцыямі, у паасобку на крываўку і брушны тыфус, і важнасьці тых або іншых залюдненых пунктаў у эканамічна-гаспадарчых адносінах.

Увага. Трэба мець на ўвазе, што будаўніцтва бэтонных студняў пры карыстаньні вадой з верхніх забруджаных гарызонтаў не дае палепшаньня. У падобных выпадках трэба дасягаць глыбейшага ваданоснага гарызонту шляхам адпаведных тэхнічных дапасаваньняў ці шляхам пабудовы сьвідраваных студняў.

9. Пабудова сьвідраваных студняў у першую чаргу павінна праводзіцца ў калгасах і саўгасах.

10. Пры правядзеньні гідратэхнічных работ на рэках (плаціны, запруды і інш.) трэба мець на ўвазе, каб гэта не адбілася на забалочанасьці бліжэйшых залюдненых пунктаў і не псавала якасьці вады.

11. Плян гідратэхнічных работ узгадняецца з санітарнымі органамі, як паказана ў § 5.

12. Пры складаньні плянаў мэліарацыйных і гідратэхнічных мерапрыемстваў прадугледжваецца абслугоўваньне рабочых у санітарна-бытавых адносінах (кватэрныя ўмовы, харчаваньне, лазьні, супроцьмалярыйныя мерапрыемствы і інш.) паводле асобна выданых па гэтым пытаньні НКАЗ і НКП правілў.

13. Нагляд за санітарнымі ўстановамі пры правядзеньні гэтых мерапрыемстваў і за правільнасьцю іх у санітарных адносінах ускладаецца на мясцовыя мэліарацыйныя і санітарныя органы.

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР *М. Барсукоў.*

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР *К. Масюкоў.*

Інспэктар Сан.-Гіг. справы НКАЗ БССР *Магілеўчык.*

10 студзеня 1930 г.
№ 82.

---

## 21. Абежнік Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забясьпечаньня і Галоўнага Кіраўніцтва Сацыяльнага Страхаваньня БССР

**пра парадак накіраваньня на працу ў капярацыю інвалідаў асоб, аднесеных да 1-й альбо 2-й групы інваліднасьці.**

За апошні час наглядаюцца выпадкі накіраваньня на працу ў арцелі інвалідаў асоб, што зусім ня здольны да ніякай рэгулярнай працы, з прычыны чаго большасьць асоб гэтай катэгорыі значны час не працуюць, а знаходзяцца на ўтрыманьні кас узаемадапамогі, капярацыі інвалідаў, што вядзе да вялікіх непатрэбных выдаткаў як з боку арцеляў, таксама і кас узаемадапамогі.

На падставе гэтага Народны Камісарыят Сацыяльнага Забясьпечаньня і Галоўнае Кіраўніцтва Сацыяльнага Страхаваньня БССР паказваюць інспэктарам сацыяльнага забясьпечаньня АВК, раённым выканаўчым камітэтам, гарадзкім саветам і акруговым страхавым касам, райстрахпунктам на неабходнасьць кіравацца наступным:

1. Не пасылаць на сталую працу ў вытворчыя і буйныя гандлёвыя арцелі інвалідаў асоб, аднесеных па страце працаздольнасьці да аднае з першых дзьвёх груп інваліднасьці з ліку маючых хваробы, што не даюць магчымасьці працаваць рэгулярна, напрыклад: сухоты апошняй стадыі, эпілепсія, рэўматызм і інш.

Увага. Сьляпыя, бязногія і г. д. у астатнім здаровыя, хоць і аднесеныя да першай групы інваліднасьці, павінны накіроўвацца на працу ў арцелі на ўсе даступныя ім работы.

2. Калі органу сац. забясьпечаньня будзе цяжка вырашыць пытаньне самому, то хворага трэба накіраваць ва ўрачэбную камісію для дачы заключэньня аб магчымасьці пасылкі гэтай асобы на адпаведную сталую, а не на часовую працу.

3. Пры пасылцы ў гандлёвыя арцелі, што падпадаюць пад п. „а“ арт. 3 пастановы ЦВК і СНК СССР (З. З. СССР 1929 г., № 62, арт. 575), дзе даецца права працу інваліда замяняць часова працаю членаў яго сям‘і, інспэктарыяты сацыяльнага забясьпечаньня могуць накіроўваць на працу інвалідаў 1-й альбо 2-й групы.

4. У далейшым строга сачыць за выкананьнем абежніку НКСЗ БССР і Праўленьня БСІКА № 1 за 22/X-1928 г. (вых. № 21 аг. за 22/X-1929 г.) „Пра барацьбу з прагуламі ў арцелях і майстэрнях капярацыі інвалідаў“, не дапушчаючы ніякіх адступленьняў.

Нам. Народнага Камісара Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР *Л. Адзінцоў.*

Нач. Галоўсацстраху БССР *П. Саламонаў.*

23 лістапада 1929 г.
№ 10.

---

## 22. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

**пра аслабаненьне зьдзелак Акцыйнага Т-ва „Белсельгасзаб“ ад па-за біржавой рэгістрацыі.**

На падставе пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 12/I-1930 г. (прат. № 34, п. 515) і арт. 3 пастановы Савету Працы і Абароны за 11/VI-1929 г. аб рэгістрацыі па-за біржавых зьдзелак (З. З. СССР 1929 г., № 38, арт. 335) Народны Камісарыят Гандлю ў дадатак да сваёй пастановы № 15 за 9/II-1929 г. (Бюл. СНК БССР — 1929 г., № 2 (61), арт. 14) пастанаўляе:

1. Аслабаніць ад абавязковай па-за біржавой рэгістрацыі зьдзелкі Акц. Т-ва „Белсельгасзаб“ па куплі, продажу і пастаўцы прадметаў абсталяваньня і забясьпечаньня сельскае гаспадаркі.

2. Гэтая пастанова ўваходзіць у сілу з 12-га студзеня 1930 г.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР *М. Абрамсон.*

Сакратар НКГ БССР *Ракаў.*

20 студзеня 1930 г.
№ 5.

---



Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

Цана 15 кап.

# ДА ЎСІХ ПАДПІШЧЫКАЎ

## на ЗБОР ЗАКОНАЎ БССР і БЮЛЕТЭНЬ СНК БССР

Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР паведамляе, што з 1930 г. Збор Законаў БССР і Бюлетэнь СНК БССР будуць рассылацца падпісчыкам **не па індывідуальных адрасох з наклейкаю іх, а па картачнай сыстэме, без наклейкі індывідуальных адрасоў.**

У выпадку неатрыманьня якога-небудзь нумару Збору Законаў БССР і Бюлетэню СНК БССР належыць зьвяртацца да мясцовай паштова-тэлеграфнай установы.

Абвесткамі ў абодвых паказаных выданьнях у апошніх нумарох за 1929 г. было прапанавана раённым і акруговым выканаўчым камітэтам, народным камісарыятам і цэнтральным установам БССР даць заяўкі на паказаныя выданьні для ўсіх установ раённага, акруговага і рэспубліканскага значэньня. Калі-ж якая-небудзь установа ня будзе атрымоўваць з 1930 г. паказаных выданьняў, яна павінна праверыць, ці ўнесена яна была ў адпаведную заяўку і калі не—прасіць аб унясеньні яе ў дадатковую заяўку і накіраваньні гэтае заяўкі ў Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР—Менск, Чырвонаармейская вуліца, № 3.

**Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР**